


Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

16 лютага 2018 года №7 (1190)

# "Дэпутата па-ранейшаму выбіраюць па касцюме і думаюць, што ён ідзе красці"

18 лютага – выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў

## Стэрэатыпы пра выбары мясцовых дэпутатаў






Пра маёмасць і даходы кандыдатаў у дэпутаты ў Маладзечне чытайце на старонцы 5

Як на самой справе працуюць дэпутаты, што думаюць пра гэту працу, на што спадзяюцца і якія хібы бачаць, чытайце на старонках 20-21



### Расклад маршрутак "Мінск-Маладзечна" не змяніцца



старонка 4

### Жыхар Івянца разважае пра стан беларускай мовы ў грамадстве

старонка 2

# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Захварэлі на бяспамяцтва

## Жыхар Івянца – пра стан беларускай мовы ў сённяшнім грамадстве

ВАЛОЖЫН

**21 лютага ўва ўсім свеце адзначаюць Міжнародны дзень роднай мовы.**

Гэты дзень вызначаны ААН не выпадкова, а як памяць пра падзеі, якія адбыліся ў далёкім 1952 годзе ў пакістанскай правінцыі Бангладэш. У гэты дзень студэнты выйшлі на вуліцы ў сталіцы горада Дака з патрабаваннем ад улады Пакістана надаць іх роднай мове бенгалі статус дзяржаўнай мовы. Патрабаванні студэнтаў падтрымалі жыхары. Людзі былі гатовыя ахвяраваць жыццём за мову... І яны перамаглі.

У 1999 годзе на сесіі ЮНЕСКА па прапанове ўжо незалежнай дзяржавы Бангладэш абвясцілі пра тое, што гэты дзень будзе адзначацца ўсімі краінамі як Дзень абароны роднай мовы.

### Захварэлі на бяспамяцтва

Захаванне моў народаў – гэта зберажэнне агульнай чалавечай культуры, якая стваралася тысячагоддзямі. Страта любой мовы – гэта пэўная страта для сусветнай культуры.

На вялікі жаль і сорам для нас, беларусаў, ЮНЕСКА ў 2010 годзе занесла беларускую мову ў спіс моў, якія знікаюць. А яна ж па мілагучнасці лічыцца другой у Еўропе, пасля італьянскай. Што здарылася з намі, беларусамі, і з мовай нашых продкаў?

Наша грамадства, у большасці сваёй, захварэла. Захварэла на бяспамяцтва. Многіх беларусаў не цікавіць мінулае нашай краіны. Яны не ганарацца сваімі прапрадзедамі. У мяне, часам, складваецца ўражанне, што гісторыя Беларусі, нават роднага горада, пасёлка, пішацца толькі сёння і толькі з чыстага ліста.

З людской памяці зніклі цэлыя стагоддзі. Стагоддзі жыцця беларусаў, іх барацьбы за сваю дзяржаўнасць, свабоду, незалежнасць, за беларускасць, за беларускую мову, культуру, традыцыі. Шкада, што нашы людзі сёння не бачаць свайго, беларускага, ва ўласным побыце, культуры, гістарычным мінулым, шмат што прыпісваюць іншаму народу.

Яны вельмі памыляюцца, адмаўляючыся ад шматвяковай гісторыі сваіх продкаў, ад беларускасці. Яны здраджваюць продкам – і ў гэтым іх вялікі грэх. Застаецца толькі спадзявацца, што калі-небудзь да іх прыйдзе прасвятленне. Вось толькі каб яно не спазнілася: краіна можа стаць іншай...

### Гэты каварны злучнік "або"

А што ж робіць улада, каб захаваць мову карэннага народа Беларусі? Русіфікацыю. У 1995 годзе правялі рэферэндум, адным з пытанняў якога было наданне рускай мове статуса другой дзяржаўнай. А потым у Законе аб мовах з'явіўся злучнік "або". І цяпер чыноўнікі радасна спасылаюцца на двухмоўе.

Так, людзі пагадзіліся на двухмоўе, але ж на раўнапраўнае двухмоўе. Ні ў Канстытуцыі, ні на рэферэндуме ніякага злучніка "або" няма, не было і не магло быць. Дзяржаўныя мовы ў нас беларуская і руская. І калі яны раўнапраўныя, дык усё ў краіне павінна быць падпарадкавана гэтым мовам у суадносінах раўнавагі: 50х50. Па-іншаму тлумачыць раўнапраўе немагчыма.

**А між тым, ад 1994 года да сённяшняга дня больш як у чатыры разы скарацілася колькасць вучняў у школах, якія навучаюцца па-беларуску. У мінулым навучальным годзе толькі 13,4% школьнікаў у гарадах і гарадскіх пасёлках атрымоўвалі адукацыю па-беларуску.**

У нашай краіне няма ніводнай беларускамоўнай ВНУ. Беларускамоўны школьнік мае значна менш магчымасцяў вучыцца ў ВНУ на мове сваёй школы, чым вучань расійскамоўнай установы сярэдняй адукацыі.

А яшчэ можна ўзгадаць навуку, мастацтва, дзяржапарат, армію, сістэму праваахоўных органаў, суд, справаводства, бытавое абслугоўванне грамадзян, дзяржаўныя СМІ – паўсюдна беларуская мова выцясняецца рускай.



Карані Соні – з Валожыншчыны. А нарадзілася яна ў Канадзе. Па-беларуску пакуль не размаўляе, але мову разумее і спрабуе спяваць па-беларуску.

### Памяркоўнасць – гэта абыякавасць

Апраўдваючыся, сёння чыноўнікі гавораць пра тое, што бацькі не жадаюць, каб дзеці вучыліся па-беларуску, што людзі не хочуць размаўляць на беларускай мове. Хлусня.

Людзі ў нас робяць усё так, як кажуць чыноўнікі. Гэта, пэўна, ужо ў нас на генным узроўні, можа, з часоў Мураўёва-вешальніка. Нездарма ж наша ўлада ганарыцца памяркоўнасцю беларусаў. Памяркоўнасць, на маю думку, можна трактаваць як абыякавасць. А гэта не лепшая якасць чалавека. І ганарыцца тут няма чым.

Людзі, у большасці сваёй, сталі абыякавымі да ўсяго, што адбываецца ў жыцці краіны. Іх не цікавяць ні палітычныя, ні эканамічныя, а тым больш моўныя праблемы. Як ёсць, так ёсць – абы ціха.

Абыякавы чалавек – гэта чыйсьці раб. Ён ніколі не скажа слова супраць волі гаспадара. Якога ж яшчэ лепшага работніка можа жадаць гаспадар, калі не такога памяркоўнага? Як жа не ганарыцца такімі людзьмі, якія не размаўляюць на сваёй нацыянальнай мове, а праслаўляюць мову гаспадара?

Укараняюцца ў свядомасць людзей розныя штампы: Беларусь – гэта Белая Русь; беларусы – гэта тыя ж рускія; руская мова – гэта таксама родная мова беларусаў. Асабіста мне агідна ўсё гэта глупства слухаць і чытаць.

Асабіста я хачу чытаць усе законы Рэспублікі Беларусь, дэкрэты і ўказы кіраўніка дзяржавы, пастановы ўрада, рашэнні мясцовых улад па-беларуску. Але ж такой магчымасці не маю. Усе заканадаўчыя і нарматыўныя акты прымаюцца і публікуюцца на адной дзяржаўнай мове – рускай. Чаму ж улада абмежавала маё права як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь?

### А што ў законах?

1. Усялякія прывілеі ці абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя.

2. Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё рускай і беларускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

3. Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржорганаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання абавязкаў.

**Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.**

### Мова не павінна быць палітычнай катэгорыяй

Аляксандр Лукашэнка аднойчы сказаў, што мова не павінна быць палітычнай катэгорыяй (не памятаю даслоўна, але сэнс такі). А на самой справе, ідзе да таго, каб мова стала "яблыкам разладу", сродкам палітычнай барацьбы.

Русіфікацыя, ігнараванне на дзяржаўным узроўні беларускай мовы, культуры, нацыянальных сімвалаў, святаў – хіба ж гэта нармальная палітыка?

Жорстка ўлада ставіцца да тых, хто прапагандуе беларускае слова – беларускамоўных пісьменнікаў, паэтаў, дзеячаў культуры, мастацтва, якія прытрымліваюцца дэмакратычных поглядаў на жыццё. Беларускіх літаратараў падзялілі на "чэсных" і "нячэсных", прымусілі іх стварыць два грамадскія пісьменніцкія аб'яднанні.

Як тут не ўспомніць народнага паэта Беларусі Максіма Танка, які напісаў такія радкі:

*Даў нам Бог*
*неўміручую мову,*
*Што жалейкай,*
*то ліраі пяе.*
*Колісь прыхадні*
*бэсцілі слова,*
*А цяпер узяліся свае...*

Віншую беларусаў са святам – Міжнародным днём роднай мовы! Будзем разам!

**Міхаіл СПІРЫДОВІЧ,**
**сябра Івянецкай суполкі ТБМ.**

# Амаль 500 відаў паслуг і не больш за 15 хвілін – у чарзе

## Пра сваю працу распавялі спецыялісты Маладзечанскага філіяла па дзяржрэгістрацыі і зямельным кадастры

**21 лютага прафесійнае свята адзначаюць работнікі землеўпарадкавальнай і картографа-геадэзічнай службы. У гэты дзень калектыў Маладзечанскага філіяла Мінскага абласнога агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры па традыцыі паедзе на ўрачыстасць у сталіцу.**

А пакуль начальнік філіяла **Уладзімір Барысенка** распавядае нам пра службу і пра сваіх падначаленых:

– Новую назву, "Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры", мы атрымалі ў 2002 годзе. Аднак людзі нас называюць па-ранейшаму – БТІ. У філіял уваходзяць тры бюро – Валожынскае (кіраўнік – **Святлана Шакун**), Вілейскае (кіраўнік – **Дзмітры Шалюта**) і Мядзельскае (кіраўнік – **Лія Бучынская**).

Філіял аказвае 474 паслугі. Па словах начальніка, больш, чым любая іншая дзяржструктура.Тут праводзяць дзярж-рэгістрацыю і тэхнічную інвентарызацыю, зацвярджаюць дагаворы куплі, продажу, абмену і дарэння, аказваюць паслугі па землеўпарадкавальных і геадэзічных работах, ацэньваюць аб'екты нерухомай маёмасці, прысвойваюць адрасы.

Спецыялісты з вышэйшай юрыдычнай і эканамічнай адукацыяй працуюць у аддзелах па дзяржрэгістрацыі, тэхнічнай інвентарызацыі, землеўпарадкаванні і інжынерных збудаваннях, архіве, бухгалтэрыі.

Шмат прыходзіць маладых спецыялістаў. Патрабаванні да іх строгія: спачатку – адбор, потым – месячныя курсы, пасля – атэстацыя.

### У чарзе – не больш за 15 хвілін

– Ад 2008 года мы ўстанавілі аўтаматызаваную сістэму электроннай чаргі, – распавёў адміністратар базы дадзеных **Дзяніс Вятчынкін**. – Цяпер мы рэгулюем час, праведзены наведнікам у чарзе. А гэта не больш за 15 хвілін. Размяжоўваем юрыдычных і фізічных асоб. У 2013 годзе сістэму ўдасканалілі. Кожны наведнік можа ацаніць, як спецыяліст абслужыў яго. Мы вядзём пастаянны ўлік якасці прыёму наведнікаў.

Па словах Дзяніса Вятчынкіна, усе аплаты паслуг адбываюцца ў рэжыме рэальнага часу. Зроблены плацеж спецыялісты бачаць ужо праз секунду.

Зімой тут абслугоўваюць каля 80 чалавек на дзень, летам – каля ста. Часам спецыялісты самі выязджаюць на месца, працуюць у сельсаветах, праводзяць кансультацыі. Традыцыйнымі сталі і прамыя тэлефонныя лініі.

Даўно і плённа працуюць у калектыве **Раман Жаўняровіч, Ірына Мізева, Людміла Казначэева, Вольга Кручкоўская, Ала Барташ, Алег Дудко, Аляксей Каракін, Алена Казлоўская, Алена Пінчук, Марына Сцяпанава**. Падае надзеі малады юрыст **Юлія Сідарава**.

Лідзія Гуновіч – кіраўнік аддзела тэхнічнай інвентарызацыі №1.

### Што ні дзень – новая гісторыя чарговага будынка

Ад 1981 года ў службе працуе **Лідзія Гуновіч** (на фота). Прыйшла сюды па размеркаванні пасля архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. І на сённяшні дзень у яе працоўнай кніжцы – адзін запіс.

– Служба наша тады месцілася ў падвале, – прыгадвае Лідзія Уладзіміраўна падзеі амаль 40-гадовай даўніны. – Спачатку працавалі з лічыльнікамі, потым – з калькулятарамі. У пачатку 2000-х без адрыву ад працы асвоіла камп'ютар, навучылася працаваць з лазернай рулеткай.

Цяпер Лідзія Уладзіміраўна кіруе аддзелам тэхнічнай інвентарызацыі №1. У яе падначаленні – сем чалавек. На думку самой Лідзіі Гуновіч, яна не строгі кіраўнік. Кажа, яе спецыялісты і без строгасці адказныя і дысцыплінаваныя.

У аддзеле займаюцца тэхнічнай інвентарызацыяй будынкаў, садовых домікаў, гаражоў, заключаюць дагаворы з юрыдычнымі асобамі.

– За што любіце сваю працу? – пытаюся ў субяседніцы.

– За тое, што тут не бывае сумна. Кожны дзень мусім разбірацца з чымсьці новым. Чалавек прыходзіць да нас, каб афарміць нейкі будынак, і амаль заўсёды распавядае пра яго цікавую гісторыю.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.02 | 15.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9886 | **1,9901** |
| Еўра | 2,4605 | **2,4618** |
| Злоты, 10 | 5,9010 | **5,8925** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4880 | **3,4560** |
| Грыўня, 100 | 7,3367 | **7,4564** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **7.02** | **14.02** |
| Еўра | 2.4530/2.4690 | **2.4500/2.4630** |
| Долар ЗША | 1.9820/1.9920 | **1.9840/1.9940** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 7.02 | 14.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,90 | **7,13** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | - | **4,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 0,95 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,80** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** (D1) |
| Агуркі, 1 кг | 4,20 | **4,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,99 | **7,90** |
| Бульба, 1 кг | - | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 3,70 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Гранаты, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **2,95** |
| Хурма, 1 кг | 4,95 | **3,99** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 1,95 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **7,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | **3,50** |

## Трактарыста з Чурлёнаў узнагародзілі ордэнам Пашаны

**ВІЛЕЙКА**

5 лютага Указам Прэзідэнта ўзнагародзілі работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці.

Сярод іх **Пётр Крывіцкі**, трактарыст-машыніст сельскагаспадарчай вытворчасці адкрытага акцыянернага таварыства "Чурлёны", што на Вілейшчыне.

Ордэн уручаюць за вялікія дасягненні ў вытворчай, навуковай, дзяржаўнай, сацыяльна-культурнай і іншай дзейнасці.

## Жанчын са Смаргоншчыны ўзнагародзілі ордэнам Маці

**СМАРГОНЬ**

6 лютага Прэзідэнт падпісаў Указ аб узнагароджанні ордэнам Маці жанчын, якія выхоўваюць пяцёра і больш дзяцей.

У спісе ёсць шматдзетныя мамы з рэгіёна – жыхаркі Смаргоншчыны.

Высокую ўзнагароду атрымалі **Кацярына Каратай**, работніца вучэбна-педагагічнага комплексу "Смаргонскі яслі-сад – пачатковая школа"; **Таццяна Марчанка**, жывёлагадоўца сельскагаспадарчага прадпрыемства "АграСолы" Смаргонскага раёна; **Таццяна Нікалаева**, прадавец аднаго з магазінаў Смаргоні; **Алеся Путырская**, гаспадыня.

**Аддзел інфармацыі.**

## Фестываль вяргінь правядуць у Залессі ў верасні

**СМАРГОНЬ**

9 лютага ў аранжарэі музея-сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага прайшоў "круглы стол" "Стан гістарычных месцаў – візітка аграгарадка Залессе". Супрацоўнікі музея прапанавалі правесці фестываль "Вяргіні – да дня народзінаў Міхала".

У рамках фестывалю плануюць правесці канцэрт класічнай музыкі, конкурс падворкаў, выставу дываноў з кветак, майстар-клас па тэхніцы "канзашы" – пляценні з атласных стужак. Зладзяць таксама дзіцячы пленэр "Кветкавая планета" і прэзентуюць буклет "Біяразнастайнасць залескай сядзібы".

Папярэднічаць фестывалю будзе семінар "Біяразнастайнасць раслінnasці ў сядзібе Агінскага і Залессі". Яго правядуць у сакавіку. Да фестывалю таксама добраўпарадкуюць сядзібу і аграгарадок.

Тэму кветак абралі не выпадкова. Паводле архіўных запісаў 1821 года, на тэрыторыі сядзібы расло каля 60 відаў вяргінь.

**Паводле oginskizalesse.by.**

# Расклад прыватных маршрутак з Маладзечна да Мінска не зменіцца

МАЛАДЗЕЧНА

Інфармацыя пра тое, што цяпер будуць хадзіць толькі дзяржаўныя маршруткі "Маладзечна-Мінск", не пацвердзілася.

12 лютага ў аўтапарку №4 адбылася сустрэча індывідуальных прадпрымальнікаў і кіроўцаў маршрутак з прадстаўнікамі ўлады, транспартнай інспекцыі і падатковай інспекцыі. Сустрэча была абумоўленая тым, што 23 студзеня ў сілу ўступіў Закон "Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках".

Мэтай сустрэчы было растлумачыць сутнасць змяненняў у законе і адказаць на пытанні перавозчыкаў, каб ім было зразумела, як далей працаваць.

– Аднак мы, – кажа індывідуальны прадпрымальнік **Алег Канапелька**, – ні на адно сваё пытанне ўцямнага адказу не атрымалі. Самае галоўнае, што пачулі, – цяпер з нерэгулярных перавозак нам трэба стаць рэгулярнымі. Мы супраць.

Ігар Канапелька патлумачыў, што яны не хочуць прывязвацца да аднаго маршруту Мінск-Маладзечна.

– У тым і сэнс нерэгулярных перавозак, што, калі заўтра стане запатрабаваным маршрут Маладзечна-Смаргонь, мы станем туды ганяць машыны праз кожныя 20 хвілін. Да таго ж, вяселлі і карпаратывы ніхто не адмяняў.

Закон "Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках" адмяняе ліцэнзаванне на пасажыраперавозкі і пуцявыя лісты.

– У астатнім жа нічога не зменіцца. Гэты закон не забараняе нерэгулярныя перавозкі.

Падчас сустрэчы прадстаўнік транспартнай інспекцыі агучыў, што нерэгулярныя перавозчыкі не могуць браць наяўныя грошы з пасажыраў.

На што прадстаўнік падатковай інспекцыі адказаў, што маршрутачнікі працуюць па законе.

– У нас у машынах тая ж падатковая інспекцыя абавязала ўсталяваць касавыя апараты, мы сумленна прабіваем білеты кожнаму пасажыру. Усе нашы пасажыры застрахаваныя, кіроўцы перад выхадам на маршрут праходзяць медагляд, машыны – механічную праверку і тэхагляд рэгулярна.

Пакуль кіраўніцтва горада і транспартная інспекцыя не адкажа на пытанні, што задавалі прадпрымальнікі на сустрэчы, у раскладзе руху маршрутак нічога не зменіцца.

Прадстаўнік Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Актанаровіч**, што прысутнічаў на сустрэчы, сказаў:

– А якія пытанні засталіся без адказу? Хай кіроўцы зададуць іх мне, я адкажу на наступнай нашай сустрэчы.

Пра дату сустрэчы Генадзь Актанаровіч пакуль не паведаміў.

– Хаця я не разумею, адкуль такая паніка. Няхай становяцца рэгулярнымі перавозчыкамі. Не хочуць, кажаце? Ці мала хто чаго не хоча, а трэба рабіць усё па законе.

### Маршрутчык са Слуцка: "Вашы прыватнікі да гэтага ездзяць ад аўтавакзала? Гэта дзіўна"

Паколькі закон "Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках" датычыцца ўсёй краіны, мы патэлефанавалі ў іншы горад Мінскай вобласці – Слуцк, дзе таксама працуюць як дзяржаўныя маршруткі, так і прыватнікі.

Сваімі думкамі падзяліўся індывідуальны прадпрымальнік **Андрэй**.

– Мэта гэтага закона – перавесці ўсіх у рэгулярныя перавозчыкі. Дык вось я для сябе яшчэ 15 гадоў таму вырашыў, што не, больш я так не памылюся.

Андрэй 15 гадоў таму працаваў як рэгулярны перавозчык.

– Мы не маглі тады вырваць свае грошы ў нашага аўтапарка. Ты ездзіш, абслугоўваеш машыну, запраўляеш яе, а сваіх грошай не бачыш. Мы тады прасілі ў аўтапарка, што будзем плаціць 15% ад выручкі, абы толькі нам далі тэрмінал. Нам у гэтым адмовілі. І мы сышлі. Мне цяжка спрагназаваць, як будзе ў Маладзечне, але, думаю, прыкладна тое самае. Тыя, хто пагодзяцца працаваць у рэгулярных перавозках, папрацуюць паўгода сабе ў мінус і кінуць гэту справу.

Андрэй прыгадаў, што сёлета ўступае ў сілу Указ №7, які павінны спрасціць прадпрымальніцкую дзейнасць.

– Паводле гэтага ўказа нават рэгістрацыю ІП адменяць, і таму, хто прыйдзе ў гэты бізнес, адкрыты ўсе дарогі. Пасажырам жа хваляваацца няма чаго. Гэта здаровая канкурэнцыя. Кожны прадпрымальнік і перавозчык будзе хвалявацца за свайго пасажыра і ствараць яму такія ўмовы, каб пасажыр не сышоў да іншага перавозчыка.

Маладзечанскіх прыватных перавозчыкаў напалохалі тым, што будуць штрафаваць за пасадку пасажыраў на аўтавакзале. На гэта прадпрымальнік са Слуцка здзівіўся.

– А вашы да гэтага ездзяць ад аўтавакзала? Гэта дзіўна. Мы ўжо даўно збіраем нашых пасажыраў па горадзе. І ўсім добра.

**Наталля ТУР.**



# Жорсткае ДТЗ на Парашках:

## сутыкнуліся два МАЗы, адзін з пяском, другі з брагай з "Маліноўшчыны"

МАЛАДЗЕЧНА

**Каля гадзіны дня 13 лютага на скрыжаванні з вуліцай Янкі Купалы сутыкнуліся два МАЗы.**

– Адзін МАЗ, гружаны пяском, за рулём якога знаходзіўся 34-гадовы кіроўца, рухаўся па вуліцы Янкі Купалы ў бок Віленскай і хацеў павярнуць налева, – расказвае інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

Пасля здарэння кіроўца патлумачыў, што ехаў на крайняй левай паласе. Насустрач яму, у сваёй крайняй левай ехаў аўтобус, які таксама паварочваў налева. Загарэўся зялёны сігнал святлафора, два транспартныя сродкі сталі паварочваць у сваіх накірунках налева.

– У гэты момант з-за аўтобуса паказаўся МАЗ, які быў гружаны бочкай з брагай. Адбылося сутыкненне.

МАЗ, на борце якога была бочка, пацярпеў больш моцна. Кіроўцу трэба было даставаць праз лабавое шкло.

Відавочцы аварыі абмяркоўвалі, што кіроўца вёз брагу з завода ў "Маліноўшчыне" ў адзін з АПК Маладзечанскага раёна.

– Цяляты, відаць, засталіся без абеду, бочку ж прабіла, – гаварылі мужчыны, што стаялі побач. – Абы толькі кіроўца быў жывы, бо яго моцна прыціснула. Прыязджала рэанімацыйнае аддзяленне ніхто пасля ДТЗ не паступаў.

– У траўматалогіі зараз аказваюць дапамогу 59-гадоваму мужчыну якраз пасля ДТЗ, – адказалі ў бальніцы.

– Мужчыну аказалі дапамогу, у яго пашкоджаныя ногі, і адпусцілі дадому, – удакладніў Сяргей Бартош. – Кіроўца МАЗа з пяском не пацярпеў. Машына, дарэчы, належыць самому кіроўцу.

ДАІ праводзіць праверку.

**Наталля ТУР.**

### За тыдзень на Вілейскім вадасховішчы ўчадзелі два рыбакі

ВІЛЕЙКА

Лёд на вадасховішчы па-ранейшаму бяспечны. Але з пачатку года загінуў ужо другі рыбак.

Як паведамілі ў вілейскай выратавальнай станцыі, хутчэй за ўсё, мужчына ўчадзеў, як і валожынскі 22 студзеня.

Трагедыя адбылася 8 лютага. 58-гадовы мінчанін з сябрамі рыбачыў недалёка ад выратавальнай станцыі.

У абед мужчына пайшоў у палатку адпачыць, пра што сказаў сябрам. Пасля пяці гадзін вечара сябар знайшоў яго ў палатцы без прыкмет жыцця.

Да прыезду міліцыі і дактароў выратавальнікі спрабавалі з дапамогай медыцынскіх працэдур уратаваць мужчыну, але безвынікова.

Папярэдняя прычына смерці – атручэнне чадам. На сённяшні дзень праводзяць праверку.

Другая падобная трагедыя адбылася 11 лютага недалёка ад вёскі Рабунь.

39-гадовы мінчанін прыехаў на рыбалку з сябрам. Па словах сябра, мужчына вечарам пайшоў у палатку. Казаў, што нядобра сябе адчувае. Раніцай яго знайшлі нежывым.

Па словах выратавальнікаў, мужчына грэўся газавай гарэлкай. І відаць, яму не хапіла кіслароду. Больш дакладную прычыну назавуць следчыя.

### Выходзіў з МАЗа – трапіў пад колы "Міцубісі"

ВІЛЕЙКА

12 лютага адбылося ДТЗ у Вілейцы ў мікрараёне Воўкаўшчына.

За рулём "Міцубісі" быў 29-гадовы гараджанін. Ён рухаўся па вуліцы Каралёва і, аб'язджаючы МАЗ, наехаў на пешахода.

Пасля высветлілася, што 30-гадовы пацярпелы выходзіў з МАЗа і не пераканаўся ў бяспецы, пераходзячы дарогу.

Цяпер пацярпелы ў бальніцы з траўмамі, распавялі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### У Вілейскім раёне МАЗ чысціў дарогу і выкінуў у кювет "Ладу"

У Вілейскім раёне 8 лютага МАЗ, які чысціў дарогу ад снегу, сутыкнуўся з аўтамабілем "Лада-Гранта". У аварыі пацярпела пасажырка легкавушкі.

Старшы інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды ўпраўлення Дзяржаўтаінспекцыі УУС Мінаблвыканкама **Алена Сакалова** расказала:

– Па папярэдняй версіі, 33-гадовы кіроўца МАЗа чысціў дарогу ад снегу. Ён выехаў на сустрэчную паласу і ўрэзаўся ў "Ладу-Гранта". За рулём легкавушкі была 37-гадовая віляйчанка. Яна спрабавала пазбегнуць сутыкнення – з'ехала ў левы кювет, дзе машына перакулілася. У аварыі пацярпела пасажырка "Лады". Яна даставленая ў бальніцу. Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Аддзел інфармацыі.**

# Колькі зарабілі кандыдаты

МАЛАДЗЕЧНА

**Мы падрыхтавалі інфармацыю аб даходах і маёмасці кандыдатаў у дэпутаты райсавета.**

Выбары пройдуць 18 лютага.

Інфармацыя ўзятая з інфармацыйных стэндаў у Маладзечанскім райвыканкаме. Звесткі на стэндах аб даходзе падаваліся ў фармаце сумы гадавога даходу. Для зручнасці чытачоў мы дзялілі лічбу на 12, каб атрымаць сярэднямесячны даход. Лічба акругленая.

Акругі, пазначаныя знакам (*) маюць альтэрнатыву

## Кандыдаты ў дэпутаты Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў 28-га склікання

### Геляноўская акруга №1

**Сарока Святлана**, нарадзілася 2 чэрвеня 1968 года, дырэктар Маладзечанскага Палаца культуры. У маёмасці кватэра ў Маладзечне плошчай 84,8 кв. м. Даход – 1 824 рублі на месяц.

### Драздоцкая №2

**Пудакевіч Іна**, нарадзілася 24 снежня 1987 года, рэдактар КУП "Тэлевізійная вяшчальная сетка". Мае дом на 214 кв.м і зямельны ўчастак на 0,1120 га ў Маладзечне, аўтамабіль "Форд-Фокус" 2002 года. Даход 694 рублі на месяц.

### Здземелеўская №3

**Анохаў Дзмітры**, 20 верасня 1978 года, дырэктар ЗАТ "Амкадор-Унікаб". Мае кватэры ў Мінску на 32,4 кв. м. і 91,1 кв. м., зямельны ўчастак у Смалявіцкім раёне на 0,12 га. Даход 3 054 рублі на месяц.

### Музычная акруга №4

**Чурсін Андрэй**, 4 студзеня 1971 года, дырэктар ТАА "Белхол". У маёмасці кватэра на 82,1 кв. м., гараж на 24 кв. м у Маладзечне, аўтамабілі 2006 і 2010 гадоў, прычэп 2011 года і лодка 2015 года. Даход 1 949 рублёў на месяц.

### Вакзальная №5*

**Вашчанка Алена**, 2 жніўня 1980 года, сацыяльны работнік Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва. Мае аўтамабіль "Мазда" 2008 года. Даход за год 150 долараў і 250 еўра, а таксама 308 рублёў на месяц.

**Валынец Міхаіл**, 3 лютага 1974 года, дворнік ясляў-садка №4. У маёмасці кватэра ў Мінску на 32,9 кв. м, дзве акцыі ААТ "Электрарамонтны завод". Даход 315 рублёў на месяц.

**Душэўскі Андрэй**, 21 кастрычніка 1977 года, дырэктар ТДА "Тэхналесзапчастка". Мае дом на 209,8 кв. м і зямельны ўчастак на 0,25 га ў Цюрлях, аўтамабілі "Аўдзі-100" 1991 года, БМВ-730 2008 года, 100% акцый ТДА "Тэхналес" і 50% акцый ТАА "Чыгункамплект". Даход 2 171 рубель на месяц.

### Віленская №6

**Клокель Міхаіл**, 3 студзеня 1964 года, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа. Кватэры на 57,6 кв. м і 50,56 кв. м, жылы дом на 50,3 кв. м, участак на 0,08 га ў раёне, два аўтамабілі "Фольксваген-Гольф" 1986 і 1998 гадоў, "Сітраэн-С5" 2001 года, чэкі "Маёмасць" – 59 штук. Даход 2 092 рублі на месяц.

### Політэхнічная №7

**Абрамовіч Людміла**, 9 верасня 1967 года, дырэктар студыі прыгажосці "Архідэя". Мае 1/3 кватэры ў Маладзечне на 61,4 кв. м, аўтамабіль "Таёта-Авенсіс" 2000 года. Даход 280 рублёў на месяц.

### Елгаўская акруга №8

**Вараўка Аляксей**, 8 красавіка 1988 года, галоўны спецыяліст раённага камітэта БРСМ. У маёмасці кватэра ў Маладзечне на 21 кв. м і аўтамабіль "Фіят-Паліа" 1999 года. Даход 667 рублёў на месяц.

### Касманаўтаўская №9

**Баранскі Віталь**, 28 чэрвеня 1982 года, дырэктар ТАА "БЕЛПАМС". У маёмасці аўтамабіль "Сітраэн-Берлінга", прычэп да лодкі, лодка з матором, 50% акцый "БЕЛПАМС". Даход 1 299 рублёў на месяц.

### Хмяльніцкая №10

**Жаўнаровіч Раман**, 27 чэрвеня 1981 года, намеснік начальніка Маладзечанскага філіяла РУП "Мінскае абласное агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры". Мае кватэру ў Маладзечне на 59,1 кв. м, аўтамабіль "Хёндай-Санат Фэ" 2008 года, два гаражы ў Маладзечне на 20,3 кв. м і 26,7 кв. м. Даход 1 760 рублёў на месяц.

### Паркавая №11*

**Драгун Расціслаў**, 12 лютага 1975 года, менеджар па продажах ТАА "Трумакс". Мае жылы дом на 77 кв. м, зямельны ўчастак на 0,25 га і гараж на 27 кв. м у вёсцы Кукава, 100% акцый ПУП "ЭнергілСкарта". Даход 739 рублёў на месяц.

**Каханоўская Людміла**, 29 верасня 1972 года, старшыня раённай арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. У маёмасці кватэра на 40 кв. м. Даход 1 394 рублі на месяц.

### Вербная акруга №12

**Томашаў Дзяніс**, 18 ліпеня 1980 года, начальнік міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Мінпрацы і сацабароны. Мае аўтамабіль "Рэно-Сцэнік" 1999 года і ВАЗ 1988 года. Даход 1 086 рублёў на месяц.

### Скарынаўская №13*

**Глінская Наталля**, 25 ліпеня 1972 года, дырэктар Маладзечанскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната. Мае кватэру на 78 кв. м. Даход 1258 рублёў на месяц.

**Таранікаў Алег**, 27 лістапада 1981 года, галоўны інжынер таварыства "Фаварыт". Мае аўтамабілі "Фольксваген-Пола" 2015 года, "Пежо-306" 1998 года, ЗІЛ 1977 года, 20% акцый ТАА "Фаварыт", 50% акцый ТАА "ГенПраектПлюс". Даход 491 рубель на месяц.

### Школьная №14

**Саўчык Іна**, 2 верасня 1967 года, загадчыца Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі. Мае кватэру ў Маладзечне на 77 кв. м. Даход 1 222 рублі на месяц.

### Мірная акруга №15

**Балкоўскі Уладзімір**, 27 красавіка 1970 года, начальнік Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы. Мае кватэры ў Маладзечне на 36,9 і 54,5 кв. м, участак на 0,24 га ў Крывым Сяле Вілейскага раёна, гараж у Маладзечне на 30 кв. м, аўтамабілі 2003 і 1986 гадоў выпуску. Даход 1 877 рублёў на месяц.

### Паліклінічная №16

**Бажко Аляксандр**, 23 кастрычніка 1979 года, загадчык псіханеўралагічнага дыспансера. Мае жылы дом у Маладзечанскім раёне на 248 кв. м, два ўчасткі – на 0,18 і 0,23 га, кватэру ў Маладзечне на 110 кв. м, гараж на 27 кв. м і аўтамабіль "Фіят-Уліс" 2003 года. Даход 1 238 рублёў на месяц.

### Зялёная акруга №17

**Паукшта Андрэй**, 1 верасня 1974 года, дырэктар "Маладзечнаводаканала". Мае частку зямельнага ўчастка ў раёне, палову гаража на 28 кв. м, аўтамабілі ЗАЗ 1982 года, М412 1981 года, "Форд С-Макс" 2010 года, матацыкл "Усход" 1967 года. Даход 2 325 рублёў на месяц.

### Гарадоцкая №18*

**Валько Святлана**, 1 красавіка 1976 года, дырэктар ААТ "Будсэрвіс-Маладзечна". Мае кватэру ў Маладзечне на 60,2 кв. м, зямельны ўчастак ў раёне на 0,15 га, гараж на 31,5 кв. м, два аўтамабілі. Даход 1 470 рублёў на месяц.

**Матыль Яўген**, 1 мая 1987 года, інжынер таварыства "Хенкель Баутэхнік". Мае зямельны ўчастак на 0,15 га. Даход 1 347 рублёў на месяц.

**Шытыка Кацярына**, 28 лістапада 1983 года, дырэктар ПУП "АўтаЮніёнСэрвіс". Маёмасць адсутнічае. Даход 384 рублі на месяц.

### Крынічная №19

**Капуцкая Каліна**, 16 лютага 1975 года, дырэктар СШ №14. Мае кватэру ў Салігорску на 45 кв. м. Даход 1 447 рублёў на месяц.

### Дажынкаўская №20

**Русакевіч Арцём**, 10 жніўня 1979 года, дырэктар ААТ "Завод "Рамбытэхніка". Мае ўчастак у раёне на 0,05 га, дачу на 70 кв. м, матацыкл "Харлі-Дэвідсан" 2003 года. Даход 2 037 рублёў на месяц.

### Фестывальная №21

**Гаршкоў Валеры**, 9 лістапада 1972 года, камандзір воінскай часці 04152. Мае 13/20 часткі кватэры ў Маладзечне на 56,7 кв.м, 1/5 зямельнага ўчастка на 0,0879 га, аўтамабіль "Пежо-408" 2014 года выпуску. Даход 2 393 рублі на месяц.

### Велікасельская № 22

**Касянкоў Уладзімір**, 27 кастрычніка 1979 года, старшыня праўлення Маладзечанскага раённага спажывецкага таварыства. Мае кватэру ў Маладзечне на 67 кв. м, аўтамабіль "Таёта-Авенсіс" 2002 года. Даход 821 рубель на месяц.

### Купалаўская №23

**Вяршыцкая Наталля**, 31 студзеня 1969 года, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ №1. Мае кватэру ў Маладзечне на 50,8 кв. м, аўтамабіль "Мазда" 2007 года. Даход 960 рублёў на месяц.

### Станказаводская №24

**Ліхтаровіч Наталля**, 17 сакавіка 1972 года, загадчыца стаматалагічнай паліклінікі ЦРБ. Мае кватэру на 68,3 кв. м, аўтамабілі "Рэно" 2016 года і "Пежо-207" 2009 года. Даход 997 рублёў на месяц.

### Старамесная №25

**Чарноў Уладзіслаў**, 11 жніўня 1969 года, начальнік раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Маёмасць адсутнічае. Даход 1 100 рублёў на месяц.

### Камсамольская №26

**Асіповіч Валянцін**, 7 красавіка 1978 года, начальнік Маладзечанскага РАУС. Мае кватэру на 67,1 кв. м, два гаражы, аўтамабіль "Фольксваген-Туран" 2007 года. Даход 1 765 рублёў на месяц.

### Коласаўская №27

**Матрашыла Сяргей**, 16 ліпеня 1982 года, начальнік Маладзечанскай дыстанцыі пуці Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі. У маёмасці кватэра ў Маладзечне на 75,2 кв. м, зямельны ўчастак у раёне на 0,2235 га, аўтамабіль "Форд-Фокус" 2009 года. Даход 2 030 рублёў на месяц.

### Шаранговіцкая №28

**Наздрын-Платніцкі Мікалай**, 6 красавіка 1959 года, дырэктар УП "Камунальнік". Мае кватэру на 49,9 кв. м, гараж у раёне на 21 кв. м, аўто "Пежо-408". Даход 1903 рублі на месяц.

### Гарадзілаўская №29*

**Кісліцкі Андрэй**, 15 мая 1988 года, эканаміст ТАА "Цісса". Мае кватэру на 36,8 кв. м у Беразінскім, аўтамабіль "Сеат-Кардоба" 1998 года. Даход 1 121 рубель на месяц.

**Трыпуцька Анатоль**, 13 студзеня 1969 года, дырэктар ААТ "Беразінскае". У маёмасці кватэра на 67,2 кв. м у Беразінскім. Даход 1187 рублёў на месяц.

### Хажоўская №30

**Невяровіч Віктар**, 24 сакавіка 1956 года, старшыня райсавета дэпутатаў. Мае гараж на 28 кв. м, аўто "Шаўрале-Ніва" 2014 года, міні-трактар "Беларус" 2016 года. Даход 2 053 рублі на месяц.

### Цюрлёўская №31

**Лукоўская Алеся**, 13 чэрвеня 1982 года, намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама. Мае дом на 120 кв. м. і аўто "Опель-Корса" 2001 года. Даход 1 305 рублёў на месяц.

### Лебедзеўская №32

**Кароль Сяргей**, 12 сакавіка 1983 года, дырэктар ААТ "Палачаны". Даход 1 224 рублі на месяц.

### Маркаўская №33

**Кацуба Сямён**, 5 лістапада 1965 года, дырэктар Маладзечанскай сортавыпрабавальнай станцыі. Мае кватэру на 61,7 кв. м у Шчучыне, аўто "Опель-Вектра" 1990 года. Даход 1 049 рублёў на месяц.

### Мясоцкая №34

**Міхайленка Кірыл**, 5 ліпеня 1979 года, індывідуальны прадпрымальнік. У маёмасці дом на 134 кв. м і ўчастак на 0,16 га ў раёне, аўто "Фіят-Уліс" 1996 года. Даход 1 338 рублёў на месяц.

### Відзеўшчынская №35

**Кісель Валянціна**, 10 лістапада 1970 года, старшыня Красненскага сельсавета дэпутатаў. Мае кватэру ў Красным на 30,6 кв. м. Даход 960 рублёў на месяц.

### Граніцкая № 36

**Люцко Наталля**, нарадзілася 16 лістапада 1970 года, загадчыца Чысцінскай участковай бальніцай. Мае кватэру на 75,2 кв. м і гараж на 19,4 кв.м у Чысці, аўтамабіль. Даход 914 рублёў на месяц.

### Чысцінская № 37

**Курыловіч Галіна**, нарадзілася 17 студзеня 1965 года, начальнік ЖКУ "Чысць". Мае кватэру ў Мінску на 49,9 кв. м. Даход 952 рублі на месяц.

### Аляхновіцкая №38

**Фурс Ганна**, нарадзілася 11 кастрычніка 1969 года, старшыня Аляхновіцкага сельсавета дэпутатаў. Мае ўчастак у раёне на 0,25 га і аўтамабіль. Даход 1 089 рублёў на месяц.

### Радашкавіцкая №39

**Неказакаў Віктар**, 2 студзеня 1962 года, старшыня Радашкавіцкага пасялковага Савета дэпутатаў. Мае дом на 110 кв. м і ўчастак на 0,15 га ў Радашкавічах. Даход 1 381 рубель на месяц.

### Вязынкаўская №40

**Вялікаіваненка Інга**, 12 ліпеня 1977 года, дырэктар Радашкавіцкай сярэдняй школы. Мае дом на 153,7 кв. м і ўчастак на 0,15 га ў Радашкавічах. Даход 1 132 рублі на месяц.

Падрыхтавалі
Зоя ХРУЦКАЯ і Наталля ТУР.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мерсэдэс МВ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто 1997-2002 г.в, дызель, універсал, можна х/б, сабе. Т. Вэлком (8-044) 4791539.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 2-пакаёвая кватэра ў раёне Зеніт г. Вілейкі. Т. (8-029) 5672139.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Рабочай. Пытанні па тэлефоне. Т. (8-029) 8558089.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе. Т. (8-0176) 531545, (8-029) 5086693.*

• Гараж у ГБК № 1 у раёне Зеніт г. Вілейка. Плошча 15,1 кв. м. Добрая яма. Падвал. Т. (8-033) 3578878.*

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом у в. Насілава Маладзечанскага раёна. Ацяпленне пячное, побач праходзіць газ. Склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, лазня. Зямельны ўчастак 0,40 га. Праз 200 метраў прыпынак. 76 000 руб. Торг да месца. Т. (8-029) 5634233.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в.Куранец. Т. (8-029) 7603076.*

• Дом у Вілейцы. Вялікі ўчастак. Побач лес. Вадасховішча. Можна абмен. Т. (8-025) 5150780.

• Дом у Вязынскім с/с, 12 км ад Маладзечна. Ёсць склеп, калодзеж, участак 0,34 га, аформлены сеткай. Т. (8-029) 5705778, (8-0176) 736689.*

• Дом у горадзе Маладзечна. Т. (8-029) 5044099.*

### ЗДАМ

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*

• Пакой у Маладзечне. Т. Вэлком (8-029) 1518018.

• 4-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Пяць хвілін хаду да чыгуначнага вакзала. Т. МТС (8-029) 5767245.



## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП "Дойлід-С" УНП 600017731. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы, дах, навесы, казыркі. ІП Борчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-029) 5062372.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Круіз Талін-Хельсінкі-Стакгольм, 5 дзён, ад 150 рублёў; тыдзень з Кіева ў Егіпце ад 390 рублёў. Ранняе браніраванне. Адэса, Затока з Маладзечна! Жыровічы – Сынкавічы 11.03, 33 руб. Паездка да Матроны Маскоўскай 25.03, 79 руб. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292604. Т. (8-029) 6542087, (8-029) 5417847, (8-0176) 538568.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Надпіс і фота на майку/кубак – 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8 "НгС". ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т, (8-01592) 31570.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", "ВЕКО", "Норд" "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар МТЗ-80, 1988 г.в. Т. Вэлком (8-044) 5539968.*

• Трактар Т-40, навяснsocial, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

**Мэбля**

• Шафа трохстворкавая з антрэсоллю, б/у. Нядорага. Т. МТС (8-029) 7653562.*

• Распрадаецца мэбля нядорага: кранштэйн для тэлевізара, 15 руб; электракамін, 15 руб; столік раскладны, 15 руб; мэблевы камплект для ванны, новы, 250 руб; набор для ванны, 15 руб; камплект штор, 40 руб; дыван (ковёр) імпартны, з шэрсці, 2,5х3,5, 100 руб.; карнізы столевыя, 15 руб; дублёнка жаночая, б/у, 48 памер, 100 руб. Т. (8-029) 6870310.

**Музінструмент**

• Акардэон нямецкі s. Т. (8-029) 5448700.*

• Акардэон нямецкі, баян Рубін 6, усё б/у. Т. (8-029) 1969072, (8-029) 8768903.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Куры-нясушкі маладыя, рознага апярэння, Чэшскі Дамінант, (яшчэ па старых цэнах і ўцэненыя) будуць прадавацца 17-18 лютага (у далейшым кожныя суботу і нядзелю) з 8.00 да 15.00 ужо **НА НОВЫМ І ПАСТАЯННЫМ МЕСЦЫ Ў г. МАЛАДЗЕЧНА – АЎТАСТАЯНКА РЭЧАВАГА РЫНКУ** (праезд каля Модуля). Таксама заўсёды ў наяўнасці ячмень, пшаніца, авёс, кукуруза цэлая і молатая, к/кармы поўнарацыённыя для курэй-нясушак, свіней, трусоў, маладняку. Цэны і дастаўка дагаворныя ад колькасці. ІП Жаўток І.В. УНП 691895897. Т. (8-029) 5530942.*






# Дзённік мамы першакласніцы: як наш сарафан апынуўся ў торбе аднакласніка



Пра тое, што першакласнікі ўвесь час нешта губляюць, пісала неаднойчы. Але калі знікае шкарпэтка, балетка або шапачка, гэта яшчэ можна неяк зразумець. А ў нас тут днямі знік... школьны сарафан. Пра гэта сумная Варвара паведаміла мне аднойчы ўвечары, калі я прыйшла забіраць яе са школы.

На наступны дзень першакласніца пайшла ў школу ў іншай сукенцы, а я ў нашу групу ў вайберы напісала такое паведамленне: "Паважаныя бацькі! Чыя дачушка прынесла дадому лішні сарафан".

Праз колькі хвілін адгукнулася адна мама. Толькі не аднакласніцы, а... аднакласніка. Варын сарафан нейкім дзіўным чынам апынуўся ў хлопчыка ў торбе. Пасля Ягорава мама дзялілася са мной:

– Раніцай разбірала яго торбачку, гляджу – сарафан. Прыношу яму ў пакой і кажу: апранайся! А ён: мама, гэта не маё! А я кажу: ну як не тваё? У тваёй жа торбе ляжала.

Карацей, аддаў хлопчык сарафан Варвары, а мы з яго мамай павесяліліся. Добра, што дзеці яшчэ маленькія. Калі б такое адбылося ў класе дзясятым, невядома пра што б мы падумалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Да розыгрышу планшэта часу застаецца ўсё менш

**Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.**

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

## Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№7)

1. Імя, прозвішча____________________________
2. Дата нараджэння __________________________
3. Клас
Школа_____________________________________
4. Населены пункт___________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака __________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ___________________
9. Імя, імя па бацьку _______________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка_______________________

# Пачаўся прыём заявак на міжнародны конкурс "ADAMI Медыя Прыз 2018"

Adami

**Пачаўся прыём заявак на міжнародны конкурс "ADAMI Медыя Прыз за Культурную Разнастайнасць ва Усходняй Еўропе 2018".**

Пра гэта паведамляецца ў прэс-рэлізе ініцыятывы Forschungsgruppe Modellprojekte e.V., Германія.

Для ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца тэлекампаніі, прадзюсарскія кампаніі, незалежныя журналісты, рэжысёры, прадзюсары і іншыя прафесіяналы ў галіне медыя з шасці краін Усходняга Партнёрства ЕС – Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова і Украіна. Прэмія ADAMI прысуджаецца за лепшыя тэлевізійныя праграмы і фільмы, а таксама онлайн-праекты, якія датычацца тэм міграцыі, інтэграцыі і этнічнай, рэлігійнай і культурнай разнастайнасці.

Гэта ўнікальная магчымасць для прафесіяналаў у галіне медыя прадставіць свае аўдыёвізуальныя працы на міжнароднай арэне, а таксама пашырыць кантакты з прадстаўнікамі тэлевізійных каналаў. Пераможцы ў кожнай з шасці намінацый узнагароджваюцца грашовымі прызамі.

Акрамя асноўных прызоў, кожнаму ўдзельніку конкурсу "ADAMI Медыя Прыз 2018" з журналісцкім досведам і валоданнем на працоўным узроўні рускай, нямецкай ці французскай мовай, даецца магчымасць падаць заяўку на стыпендыю ADAMI для праходжання стажыроўкі на каналах Deutsche Welle (Берлін, Германія), MDR (Лейпцыг, Германія) або ARTE (Страсбург, Францыя).

Прэмія ADAMI Медыя Прыз прысуджаецца ў шасці намінацыях. Калі ласка, азнаёмцеся з рэгламентам да падачы заявак.

Конкурс адкрыўся 1-га лютага 2018 года. **Даты заканчэння прыёму заявак:**

– **01/07/2018** для матэрыялаў, апублікаваных паміж 11.10.2016 і 31.12.2017

– **01/10/2018** для матэрыялаў, апублікаваных паміж 01.01.2018 і 01.10.2018.

Прэмія ADAMI Медыя Прыз прысуджаецца ў шасці намінацыях:

1. ADAMI Медыя Прыз у галіне культурна-забаўляльных праграм і фільмаў (ігравыя фарматы)
2. ADAMI Медыя Прыз у галіне інфармацыйных праграм і фільмаў (ігравыя фарматы)
3. ADAMI Медыя Прыз за навінавыя праграмы і неігравыя каротકаметражныя фільмы
4. Малады ADAMI
5. ADAMI Онлайн Прыз за вэб-старонку
6. ADAMI Онлайн Прыз за онлайн-відэа.

Для атрымання дадатковай інфармацыі і падачы заяўкі на ўдзел у конкурсе зайдзіце на сайт www.adamimediaprize.eu.

Сесія міжнароднага журы для вызначэння намінантаў і пераможцаў конкурсу адбудзецца ў кастрычніку 2018 у Мінску.

Пераможцы будуць абвешчаны на гала-цырымоніі ўзнагароджання ў Кішынёве (Малдова) у лістападзе 2018, якая будзе трансліравацца па міжнародных тэлеканалах.

ADAMI Медыя Прыз ажыццяўляецца пры фінансавай падтрымцы Міністэрства замежных спраў Германіі і ПроКрэдыт Холдынгу (Германія).

Арганізатары конкурсу чакаюць вашы заяўкі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Дыпламат Каралеўства Нідэрландаў:

## "Калі правілы гульні не будуць мяняцца крытычна, інвестары не прымусяць сябе чакаць"

**Часова Паверанысправах Каралеўства Нідэрландаў у Беларусі Паул ван Аастсвейн прыехаў з азнаямляльным візітам у Маладзечна 8 лютага.**




Часова Паверанысправах Каралеўства Нідэрландаў у Беларусі Паул ван Аастсвейн у рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты".

Кіраўнік нідэрландскай дыпламатычнай місіі ў Беларусі мяркуе: каб лепш зразумець краіну, у якой працуеш, неабходна ведаць не толькі сталіцу. Таму ён выязджае ў рэгіёны і знаёміцца з жыццём у іх.

Спадара Часова Паверанага цікавілі асаблівасці працы рэдакцыі і ўмовы існавання недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Ён таксама адказаў на нашы пытанні.

**– Як вы ўпершыню даведаліся пра Беларусь, якой уяўлялі гэту краіну і наколькі яна апраўдала чаканні?**

– 10 гадоў таму я працаваў у прадстаўніцтве Нідэрландаў у Санкт-Пецярбургу, і мне часам даводзілася перасякаць Беларусь на аўтамабілі. Ужо тады я адзначыў, наколькі прыгожая ваша краіна, якім акуратным і добра арганізаваным усё выглядае.

Для большасці галандцаў Беларусь з'яўляецца краінай яшчэ незнаёмай, але многія ведаюць імя Святланы Алексіевіч, чулі пра поспехі ў хакеі і вялікім тэнісе.

**– Якія культурны досвед найбольш аб'ядноўвае Нідэрланды і Беларусь?**

– Як і беларусы, галандцы пакідаюць шмат месца ў сваім жыцці любові да прыгожага: жывапісу, музыкі. Балет, класічны ў Беларусі і ў больш сучаснай інтэрпрэтацыі ў Нідэрландах, любяць у абедзвюх краінах.

З кожным годам расце колькасць аматараў ровараў, роварных шпацыраў і спорту, што можна назваць відавочнай агульнай рысай дзвюх краін.

**– У якой галіне найбольш перспектыўна развіваць супрацоўніцтва паміж Нідэрландамі і Беларуссю? Якімі магчымасцямі недастаткова карыстаецца Беларусь для прыцягнення турыстаў?**

– Галандцы праводзяць свой вольны час актыўна, нават вандруючы за мяжой. У Беларусі хуткімі тэмпамі развіваецца роварная культура, але можна яшчэ шмат зрабіць у гэтым кірунку для прыцягнення турыстаў – развіваць інфраструктуру, прапаноўваць паслугі турыстам з дапамогай сучасных тэхналогій і на зразумелай ім мове.

Некранутыя прыродныя куткі Беларусі, падобныя Белавежскай пушчы і Прыпяцкаму парку, вельмі прывабныя для еўрапейцаў, якія жадаюць паназіраць за жывёламі і птушкамі або здзейсніць агульны пазнавальны роварны тур.

**– Які аб'ект з існуючых можа прыцягнуць жыхароў Нідэрландаў у Беларусь? Чаго не хапае ў краіне, каб ахвотных было больш?**

– Так склалася, што гісторыя Другой сусветнай вайны, у розных краінах, вядомая і ўспрымаецца з розных пунктаў гледжання. Галандцам вельмі цікавы погляд на гісторыю "з Усходу". Вельмі ўражвае беларускі мемарыял "Хатынь", які прымушае яшчэ раз задумацца пра тыя гістарычныя ўрокі, якія атрымала чалавецтва, і недапушчальнасць іх паўтарэння. Выклікаюць павагу экспазіцыі музея Вялікай Айчыннай вайны і Лініі Сталіна.

Усё, што звязанае з эпохай Савецкага Саюза, пры ўмелай арганізацыі можа стаць прыцягальным фактарам для турыстаў.

Практычна ўсе галандцы размаўляюць на англійскай, а для турыста вельмі важна атрымліваць паслугі і інфармацыю на той мове, на якой гавораць. Больш якасных і недарагіх гасцінічных паслуг, пунктаў грамадскага харчавання, праграм, прапанаваных мясцовымі гідамі невялікім групам турыстаў, асабліва ў рэгіёнах, – усё гэта таксама здольна дабратворна паўплываць на колькасць задаволеных турыстаў, якія вернуцца ў будучыні ці параяць прыехаць сюды сваім сябрам.

**– Рэгіён распаўсюджвання нашага выдання не толькі разнастайны, але таксама мае эканамічны патэнцыял, часта цікавы замежным партнёрам. Ці ёсць прыклады супрацоўніцтва Нідэрландаў і Беларусі ў Маладзечне і нашым рэгіёне ў цэлым? Наколькі гатовае каралеўства інвеставаць у нашу эканоміку?**

– Менавіта ў сувязі з усё большай цікавасцю да Беларусі, а таксама для таго, каб лепш разумець народ, краіну і працэсы, якія адбываюцца ў ёй, паўтара года таму – у жніўні 2016 – і быў адкрыты офіс Пасольства ў Мінску.

Гаворачы аб інвестыцыях, неабходна разумець, што бізнес дзейнічае ў залежнасці ад наяўных патрэб самарэгуляванага механізму, якому важная стабільнасць і абарона інтарэсаў. Маючы патэнцыял для развіцця, а таксама ўпэўненасць у тым, што правілы гульні не будуць змяняцца крытычна, інвестары не прымусяць сябе доўга чакаць. Бізнес Нідэрландаў адкрыты для супрацоўніцтва, і офіс Пасольства ў Мінску будзе аказваць яму ўсялякую падтрымку.

**– Якое значэнне манархіі ў Нідэрландах асабіста для вас?**

– Манархія ў Нідэрландах не мае рэальнай улады – краінай кіруе абраны народам парламент. Але для мяне манархія каштоўная, бо з'яўляецца часткай нашай гісторыі і адным з тых важных фактараў, якія аб'ядноўваюць і згуртоўваюць народ Нідэрландаў.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Івянецкі музей прапануе прыгадаць дзяцінства

ВАЛОЖЫН

Самыя прыемныя ўспаміны ў кожнага з нас – гэта дзяцінства, перакананыя арганізатары. У музеі прапануюць падзяліцца імі і прынесці ў музей рэчы, якія нагадваюць пра той бесклапотны час у жыцці.

Выставу плануюць на май 2018 года.

Ахвотных паўдзельнічаць у выставе чакаюць па адрасе: ***Івянец, вуліца Музейная, 2***. Тэлефоны: **8 (01772) 53541, +375295638493.**

Свае рэчы пасля можна будзе забраць назад.

**Аддзел інфармацыі.**

## Новы начальнік выратавальнай станцыі

МЯДЗЕЛ

На Мядзельскай выратавальнай станцыі працуе новы начальнік. Гэта 34-гадовы **Дзмітры Дамшэль**.

Былы начальнік **Дзмітры Мялешка** сышоў на пенсію, распавялі ў Мядзельскай выратавальнай станцыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Натхненне года-2017” Bazinato: “Культура – гэта апошняе, пра што тут думаюць”

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра тое, што мастацтву вучаць няправільна, чаму гэта жыццёва неабходна выпраўляць і як яно змяняе свет, мы размаўлялі з Bazinato, аўтарам леташняй “Галерэі на сметніцы”.**



Фота Наталлі ТУР.

Вулічны мастак Bazinato перамог у нашым конкурсе “Асоба года-2017” у намінацыі “Натхненне”. Рэдакцыю “РГ” уразіў яго мастацкі праект. Маладзечанец летась адкрыў нашумелую галерэю на сметніцы падчас Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі.

### Пра адукацыю і калготкі

Па адукацыі настаўнік біялогіі, заўсёды падабалася біялогія. Год працаваў у Мінску, але больш не змог знаходзіцца ў настаўніцкай, дзе мералі калготкі.

Другая адукацыя – аўдыёвізуальны дызайн і медыя ў ЕГУ. Адвучыўся тры гады, ніводнай пераздачы, а пасля кінуў, мне стала сумна.

### Адкуль “Bazinato”

Базылі – так называлі мужчын у маім родзе. Першым назвалі сына бабулі, ён памёр у 16 год. І пасля так назвалі ў двары і мяне.

Так як Базілевічаў шмат, абыграў гэта слова ў псеўданім Базінато.

### Галерэі будуць яшчэ

У 2016 годзе я са знаёмымі арганізаваў фестываль “Парашок”. Было 10 зон на абсалютна розныя тэмы, дзе мы малявалі з дзецьмі. Упрыгожылі, усё бясплатна, прыйшло чалавек 300. Падчас фестывалю зрабілі шмат матэрыялу.

Спантанна на вуліцу выходжу, збіраюцца дзеці, і мы нешта робім. Думаў зладзіць яшчэ выставу. Вырашыў, гэтым разам яна павінна быць не на адзін дзень, пасля якога ўсё разбяруць. У межах аднаго з праектаў зрабіў скульптуру, якую назвалі “Вагіна”, у падарунак атрымаў балончыкі з фарбамі. Думаў з дзецьмі размаляваць сметніцу на зіму, але шмат з’язджаў, а пасля стала холадна. Вясной усё ж зраблю.

Мару стварыць у Маладзечне вучэльню як альтэрнатыву таму, што ёсць. Каб выкарыстоўваць мастацтва як асноўны метад змяняць свет.

### Сучаснае мастацтва з’явіцца ў Маладзечне, калі папросяць бразільцы

У Маладзечне не так шмат усяго адбываецца, бо тут няшмат людзей, гатовых дапамагаць.

Прапанавалі намаляваць мурал у Маладзечне, але на гэта трэба дазволы. А я не хачу размаўляць ні з якой адміністрацыяй. Людзі, якія не хочуць разумець, што ёсць важныя рэчы, і ўвогуле не разумеюць, пра што я ім кажу. Чакаю, калі бразільскае пасольства заклапоціцца і скажа: “Дайце гэтаму чуваку памаляваць”. Тады дазволяць. Што адбываецца? Малююць нейкіх пажарных.

Мясцовыя ўлады, здаецца, і робяць некаторыя рэчы. Нядаўна быў год культуры, калі Маладзечна быў культурнай сталіцай. Што адбывалася? Нічога! Прайшоў незразумелы пленэр, невядома, хто там быў, з’явіліся нейкія камяні. Яны вельмі традыцыйныя і не прымушаюць рэфлексаваць, не запускаюць ніякіх мазгавых працэсаў. У дачкі маёй запускае толькі жаданне залезці.

Тым часам у горадзе існуе 100 розных накірункаў, але пра іх ніхто не думае.

### Педагогі не вучаць галоўнаму

Я вулічны мастак і ведаю, што не павінны прасіць дазволу ні ў каго. У гэтым мой досвед нашмат большы, чым у многіх. Ведаю, што адбываецца з культурай і артам у свеце.

Часта хаджу ў нашы мастацкія ўстановы, яны класныя, не раз прапаноўвалі супрацоўнічаць. Але нагадваюць вагончыкі, якія хочуць прычапіцца да паравозіка. Я не хачу быць адзіным паравозікам, хачу, каб паравозікамі былі ўсе.

У педагогаў, з якімі гавару, не хапае досведу, яны жывуць выключна ў кантэксце гэтай краіны. Пра якое мастацтва можна гаварыць, калі людзі не былі ні на адной выставе, акрамя свайго горада, калі мастакі ніколі не ладзілі сваіх выстаў і калі педагогі не могуць навучыць, як прадаваць мастацтва?

У нас цудоўныя тэарэтыкі, але яны не вучаць дзяцей думаць і выяўляць сваю індывідуальнасць, нікому гэтая індывідуальнасць не трэба. Вучаць рабіць так, як правільна, – на іх думку.

### Мастак павінны не толькі маляваць

Мастакі цяпер працуюць без нацыянальнай прывязкі. Дзе ёсць магчымасць – там працуем. Напрыклад, з удзельнікамі “Дзіцячай творчай майстэрні” пры галерэі “Ў” выйгралі грант, зрабілі кнігу “Казімір Малевіч для дзяцей”.

Маляванне для мастака – толькі адзін з метадаў працы. Цяпер розныя практыкі працы, і гэта не толькі пэндзаль у руцэ, а мультыінструментальны канструкт.

### Як жа мастацтва мяняе свет

Хаця б “Чорны квадрат”. Вы ўсе гледзіце ў свае чорныя квадраты цяпер, у свае маніторы. Супрэматызм Малевіча надзвычайна паўплываў на гісторыю мастацтва, таму што ён паламаў усе канструкты.

Мастацтва ідзе на два крокі наперад дызайну. Любая рэч спачатку прыдуманая мастаком, пасля пераасэнсаваная дызайнерам, а потым трапіла ў масавую вытворчасць.

**Мастакам тут нецікава, таму што ніхто не купляе іх мастацтва, рынку няма. Дзяржаве гэта абсалютна нецікава, культура – апошняе, пра што тут думаюць. А нават калі нехта тут штосьці робіць, іх ніхто не ведае, і яны з’язджаюць. Ніхто нікога не паважае і не цэніць. Я гэта бачу.**

У Заходняй Еўропе ёсць традыцыі, калекцыянеры, там падтрымліваюць класічнае мастацтва. Беларускія мастакі зарабляюць удзелам у праектах за мяжой ці ў нас, але за кошт замежнага капіталу.

“Дзіцячую творчую майстэрню” развіваем, у будучым гэта праект і для падлеткаў, і для пенсіянераў, дзе будзем вучыць выяўляць сябе і прасоўваць творчасць. Не трэба зацыклівацца толькі на тым, што адбываецца ў Беларусі.

Мастацтва стала вельмі дакладным, цесным з навукай. У Беларусі нават ёсць людзі, якія займаюцца тэхнанавуковым мастацтвам. Яны ствараюць на аснове хіміі, генетыкі і біялогіі экспазіцыі і выкарыстоўваюць для аўдыёвізуальных інсталяцый. Цяпер многія мастакі задаліся пытаннем, наколькі чалавек можа мяняць сваё цела. Спачатку мастакі прыдумалі, як паказаць свет пры дапамозе гуку, паху і іншага, пасля гэту тэхналогію ўзяў гугл. Пісьменнікі спачатку пішуць фантастыку, пасля гэта ўвасабляецца, таму што ўжо ёсць форма.

Удзельнічаў у праекце ў Лынтупах, прыдумаў параўнаць фота 100-гадовай даўніны з тым, што цяпер. Тыя самыя месцы.

Дык вось, за сто год увогуле нічога не змянілася. Як гэтыя слупы электрычныя сталі, жабрацтва, так усё і цяпер. Што яны тут рабілі сто год? Прыдумаў гісторыю, нібыта знайшоў дзённік фатографа, дзе ён піша, як шукае месцы, робіць здымкі. Гэты канцэпт выглядаў так рэалістычна, ніхто не зразумеў, што фэйк. А на самой справе гэта абсалютна не важна. Я хацеў, каб чалавек пайшоў далей проста з фота.

### Першае графіці Маладзечна

Я шмат рабіў у Маладзечне, але гэта хутка сыходзіла. Першае сваё графіці зрабіў у 1999 годзе, калі па ўсёй Беларусі было толькі дзве каманды, якія гэтым займаліся. І усё адразу замалёўвалі, а гэта ж грошай каштавала.

Заўважаю, што ў горадзе шмат няправільнага, бардзюры амаль нідзе не маюць з’ездаў, каб можна было без перашкод ездзіць на ровары. Архітэктары з адукацыяй робяць проста дзіка няправільныя рэчы. Я не вучыўся, але меў праект, дзе будаваў, і рабіў гэта лепш за адукаваных. Таму што ў мяне была прага.

### Дома музей, які папаўняе дачка

Дачцэ Торы чатыры гады. Калі хоча маляваць – бярэ і малюе. Быў перыяд, калі малявала на сценах, падлозе. Цяпер прайшоў гэты перыяд, просіць паперу.

Хачу з дома зрабіць адкрыты музей, павесіць шыльдачку, таму што ў мяне кожны кавалак сценкі – нейкі арт. І дзіцяці дазваляю усё. Яе працы прыкольныя, паўнейшая абстракцыя. Жывапіс руху.

Цяпер многія дзеці малююць вельмі стэрэатыпна. Домік – заўсёды квадрацік. Гэта ідзе ад школы. Не раз было, што мама адбірае пэндзаль і падмалёўвае, кажа, што нешта непрыгожа. Часам дзяцей даводзіцца вучыць расслабіцца, забыць, чаму вучылі раней, што ніхто не паставіць адзнаку. Ну, як за маляванне можна паставіць адзнаку? Глупства.

Запісала
Зоя ХРУЦКАЯ.

**Даведка “РГ”. Парашкі** – народная назва аднаго з мікраранаў у Маладзечне, размешчанага каля завода парашковай металургіі.
**Арт** – мастацтва.



У мінулы аўторак памёр Іван Пятровіч Драўніцкі. Краязнаўца, настаўнік, педагог, сябар "Рэгіянальнай газеты"… Нарадзіўся Янка Драўніцкі 6 мая 1932 года ля Камаёў. У маладосці трапіў на Свіршчыну. Амаль усё жыццё адпрацаваў дырэктарам школы ў Куцьках паблізу Камарова, цяпер Мядзельскі раён. Нястомны даследчык, аўтар шматлікіх публікацый аб нашым краі. Яго памятаюць сотні вучняў, якія атрымалі пуцёўку ў свет ад Настаўніка і Педагога. Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырыя спачуванні вернай спадарожніцы жыцця Івана Пятровіча Караліне Мечыславаўне, яго дзецям і ўнукам.

# Запавет Івана Драўніцкага: "Сваё – першае"

## Апошняе інтэрв'ю Івана Драўніцкага, краязнаўцы, настаўніка, педагога

**Гэта апошняе інтэрв'ю, якое Іван Пятровіч Драўніцкі даў "Рэгіянальнай газеце" ўлетку 2016 года, седзячы ля парога свайго дома ў Куцьках.**

**– Беларускамоўныя школы на Свіршчыне, які іх лёс?**

– У 1944 годзе тут былі выключна беларускамоўныя школы.

У Свіры школу адкрылі яшчэ ў 1940 годзе. Былі дзве школы: яўрэйская і беларуская. Пасля вайны, акрамя беларускамоўнай школы ў Свіры, былі беларускамоўныя ў Камарове, Альшэве, Канстанцінаве, Засвіры… Ну, і пачатковых было сем школ.

Потым у адзін час так сталася, што ў райвыканкам і райкам партыі прыехалі…

**– У Свірскі?**

– У Свірскі. …прыехалі людзі з Расіі. Яны кажуць: мы не разумеем, нашто нам гэта беларуская мова? Перавучвацца будзем? Нада, каб у Свіры зрабілі хаця б адну рускамоўную школу.

Павел Радзівонавіч Печкуроў, дырэктар школы, ён тутэйшы, стаў упірацца. Яго з пасады знялі і перавялі ў сямігодку ў Вішнева. Прыслалі Шыкіравую Любоў Максімаўну. Яна жонка савецкага афіцэра, расійскамоўная. Ну, і было рашэнне райвыканкама зрабіць гэту школу рускамоўнай. Усе астатнія засталіся беларускамоўнымі.

Свірчукі, выйсця не было, пайшлі ў рускую школу.

Ужо пасля далучэння да Мядзельскага раёна пры свірскай школе адкрылі школу падоўжанага дня і інтэрнат пры школе. У Альшэве дзяцей стала памяншацца, правялі "работу", што няма чаго там дзяцей вучыць, трэба школу закрываць, і не ў Куцькі, хаця тут пяць кіламетраў, а ў Свір іх. Бо там трэба было запоўніць інтэрнат. Дамова была такая. У панядзелак дзяцей завязуць, тыдзень адбудуць, і ў суботу вяртаюцца дахаты…

Вазіць мусіла саўгасная "лятучка". Брыгадзір забываўся, ці што, ці галоўны інжынер Пётр Максімавіч Тарэйка… Гэтыя дзеткі са Свіры пяшком дзевяць кіламетраў чапаюць. І малыя гэтыя: "Каб жа ў Куцькі нас пусцілі!"

**– А вы ўжо ў Куцьках дырэктарам былі?**

– Я быў дырэктарам школы.

Дык мне сказалі: "Хоць адну заяву з Альшэва прымеш – з партыі вон, з работы – вон! Ні аднаго з альшэўскай школы не прымаць! Рашэнне ёсць, усіх у рускакамоўную школу".

Гэта гвалтам было.

**– У якім годзе прыкладна?**

– Не скажу, але ўжо быў Мядзельскі раён. (Свірскі раён скасаваны ў 1959 годзе – рэд.)

Ну, а ў мяне вучняў хапала. Па дваццаць пяць – трыццаць чалавек у класах. Яны б, альшэўцы, не заміналі, але і пагоду не строілі. Ну, і лезці на ражон, я партыйны, камуніст… Няхай…

Ды людзі не хацелі. Вот брыгадзір, Лазар. Ён ездзе на нарад кожны дзень, у Камарова. І дзяцей падвёз бы. А дзе там яго хлопец? Што там?

Некаторыя, прабачце, і заўшывіліся…

І што ён робіць? "Каб сюды". Адказваю: "Не маю права".

Дык ён піша заяву ў Лынтупы, а ўжо з лынтупскай школы – сюды.

**– З альшэўскай школы нельга…**

– А з лынтупскай можна. І так не адзін ён. Сталі перакочвацца з Лынтупаў, з Масцянаў. Бліжэй, пяць кіламетраў! Калі што якое: і транспарт ходзіць, і бацькі працуюць…

У Свіры дзяцей альшэўскіх сталі крыўдзіць. Паўцякалі адтуль. Хто ў Ігналіну паехаў, там бывала станцыя, у Лынтупы хто… З-за дзяцей. Адзін чалавек нават выехаў з-за дзяцей, вывучыў іх, і зноў вярнуўся ў Альшэва. Яна пасля працавала ў клубе. Бацькі ж сваіх дзяцей берагуць. І адпраўляць іх за дзевяць кіламетраў на тыдзень, гэта трывожна.

Так перайшло на рускую мову Альшэва. Затым – Канстанцінава. Бацькі толькі каб у Куцькі. Дырэктарам быў ужо не я, Галіна Кісялевіч. Ёй таксама забаранілі браць з Канстанцінава. Павезлі ў Свір.

Куцькі сталі закрываць. Многія хацелі ў Старлыгі, там беларуская школа. Колькі выклікалі тут бацькоў. Па адным. Мучылі, каб заявы пісалі: "Што там, чаму ў Старлыгах навучаць. Якая там база, якая вучоба? Толькі ў Свір!" І тут перапалавініліся. Частка дзяцей паехала ў Старлыгі, частка – у Свір. Пахадзілі некаторыя дзеці ў Свір, панапісвалі заявы і паехалі ў Старлыгі. Чаму? Можа, праблемы і з мовай былі. Ды і свірчукі гэтыя, местачковыя, яны нашых "дзяроўняй" абзывалі...

І цяпер у нашым сельсавеце беларускіх школ няма ні адной.

**– Іван Пятровіч, чаму важна мець беларускамоўную школу?**

– Калі няма мовы, то няма нацыі. Не будзем мы як беларусы. Хто мы тады будзем?

**– А рускімі мы не станем?**

– Не станем. Ды нас руская і не далучаць. Яны зусім іншыя…, зусім іншы менталітэт. Мы нават да літоўцаў бліжэйшыя. Моўная блізкасць? Але калі прыслухаешся да літоўскай мовы, то там пачуеш беларускасць. Сінтаксіс у нашых мовах такі самы. Паслухайце казку: "Жывенэ бабута ір дзедукас..."

**– Ці ёсць у беларускіх школах, як, напрыклад, у Ільі на Вілейшчыне, будучыня? Што робяць настаўнікі такіх школ? Гэта смеласць, адвага?..**

– Я лічу, што гэта павага да свайго народа, да сваёй мовы, да сваёй зямлі. І за гэта ім дзякуй. Што не падладжваюцца пад кагосьці. Цяпер пад рускіх, былі б палякі, пад палякаў бы пачалі…

**– Беларуская мова ў школе – гэта ж не значыць непавага да іншай мовы?**

– Іншыя мовы трэба ведаць і любіць.

**– Беларус можа любіць Пушкіна?**

– Можа любіць і Пушкіна, і Талстых, і Дастаеўскага. І паважаць. І спяваць. І рускае, і польскае…

**– Але дайце нам права любіць сваё?**

– Сваё ж – першае…

Гутарыў **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**
**Фота аўтара.**

# Колькі каштавалі модныя туфлі у 1930-х і чаму польскія настаўнікі шматараблялі

## Успамінае ўраджэнка вёскі Княгінін, што на Мядзельшчыне

*Працяг. Пачатак у №5.*
ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Успаміны ўраджэнкі Княгініна Лідзіі Антановіч запісаў краязнаўца з Мядзела Вадзім Праўрацкі ў 2003 годзе.**

"Мне самой з польскіх часоў найбольш запомнілася школа і польскія настаўнікі ў Княгініне. Дырэктарам школы быў пан **Езёрэк** – былы легіянер Пілсудскага. Педагагічнай адукацыі ён не меў.

Затое чалавекам высокай культуры і выдатным педагогам была яго жонка **Гелена**. Яны жылі ў кватэры, што размяшчалася ў самой школе. Таксама настаўнікамі ў школе працавалі пані **Казіміра**, сястра пані Гелены, і **Моніка Глушаніна**. Настаўнікі пры Польшчы атрымоўвалі добры заробак – 400 злотых у месяц. Для параўнання: самыя дарагія дамскія туфлі чэшскай вытворчасці каштавалі восем злотых, пуд жыта каштаваў два злотыя. Палякі разумелі, што кінеш наперад, ззаду знойдзеш. Польская дзяржава ўкладала грошы ў перспектыву.

Маленькай дзяўчынкай я любіла гуляць ля панскага палаца. Будынак яго быў аднапавярховы, мураваны, звонку атынкаваны і выбелены. Побач з палацам месціліся вялікі парк і сад. Пані прыкладала вялікія намаганні, каб парк быў дагледжаны. У ім раслі клёны, ліпы, піхта.

Часта бегала гуляць у парк з дочкамі панскай кухаркі, якая была родам дзесьці з-пад савецкай граніцы. Прозвішча ў яе было **Баркунец**. Мужыка пры ёй не было, а справа вось у чым. Мужык быў з Усходняй Беларусі. Потым па нейкай прычыне перайшоў у Польшчу і асеў каля граніцы. Праз колькі часу ажаніўся з нашай кухаркай, уладкаваўся на працу. У іх нарадзіліся дзве дзяўчынкі – **Вольга** і **Юля**. Але неяк раз уначы прыйшлі да іх тры чалавекі, схапілі мужыка, пасадзілі ў мех і панаклалі за савецкую граніцу. Больш яго ніхто не бачыў. Жонка перапалохалася і паехала далей ад граніцы. Уладкавалася да нашай пані кухаркай і ўвесь час баялася бальшавікоў…

Савецкая ўлада ўсталявалася ў нас у 1939 годзе. Пры бальшавіках было, як у тым анекдоце: "Адзін кіруе ў трамваі, а ўсе трасуцца". Праўда, спачатку сустракалі іх з такім ажыятажам, з такой радасцю, з такой надзеяй. Многія верылі савецкаму радыё і савецкай прапагандзе, што нібыта ў Савецкім Саюзе ўсё бясплатнае, усім там шчасліва жывецца. Радаваліся і ад таго, што ў многіх радня жыла па той бок мяжы. Таму і сустракалі бальшавікоў, як самых блізкіх: будавалі брамы, рыхтавалі канцэрты.

Але ўжо фактычна пасля першай-другой сустрэчы зразумелі, што гэта не тое, чаго чакалі. У першую чаргу ўсіх здзівіла армія. Выклікала ўсмешку прымітыўная зброя, а таксама вайсковы рыштунак чырвонаармейцаў. Бацька заўважыў: "Аж у грамадзянскую ваявалі з такой вінтоўкай". Асабліва страшнае ўражанне зрабілі афіцэры-лейтэнанты. Яны былі ў прымятым, выцвілым адзенні. Вялізныя гадзіннікі былі паначэпліваныя прама на рукавы гімнасцёрак. Іх некультурнасць адразу кідалася ў вочы. Савецкія лейтэнанты ні ў якое параўнанне не ішлі з польскімі афіцэрамі. Тыя былі вышкаленыя, заўсёды адпрасаваныя, з бліскучымі ботамі.

Хутка да нас пачалі прыязджаць з Расіі агітатары, выступоўцы. Людзі былі ашаломленыя патокам нязвыклых слоў: класавая барацьба, дыктатура пралетарыяту. Для вяскоўцаў дзікунствам гучалі лозунгі: "Уничтожить буржуазию! Вперед к мировой революции!". Неўсвядомлена прадчувалі нешта нядобрае. І, сапраўды, хутка пачаліся арышты. Арыштавалі дырэктара школы пана Езёрэка, начальніка пошты **Ляванава**, усіх ляснічых, а пасля і ляснікоў. Начальнік чыгуначнай станцыі **Наркевіч** некуды ўцёк.

Вясной 1940 года я ўбачыла першую вывазку. Для мяне гэта быў шок. На вуліцы якраз была адліга, свяціла сонейка. Мы ўсе на перапынку выскачылі са школы на ганак і заняліся дзіцячымі забавамі. І тут раптам **Шурка Туплік** закрычаў: "Глядзіце! Глядзіце! Врагоў вязуць!" У адзін момант валтузня сціхла. Мы ўбачылі, што на мядзельскай вуліцы ехалі падводы. На вазах сядзелі жанчыны, дзеці і старыя. Мужчын на вазах відаць не было. Вясковыя жанчыны ехалі ў простым, даматканым адзенні. У старых трэсліся галовы, на скронях прабівалася сівізна. Каля кожнай падводы было па адным вайскоўцу. Гэта вывозілі сем'і асаднікаў і леснікоў. Падводы рухаліся ў бок чыгуначнай станцыі.



Савецкі плакат часоў Другой сусветнай вайны.

Наша сузіранне перапыніла мая маці. Яна выйшла са школы і як закрычала: "Чаго тут стаіце? Марш у клас!" Мая маці на той час выкладала беларускую мову і літаратуру.

У 1939 годзе, можа, праз месяц пасля прыходу саветаў, мама разам з пані Геленай і Монікай Глушанінай прайшлі гэтыя курсы ў Вілейцы. Самае цікавае, што адразу пасля курсаў польскія настаўніцы выдатна пачалі размаўляць па-расейску.

Напярэдадні вайны бацька працаваў у Вілейцы галоўным бухгалтарам у аблвыканкаме. З надыходам вайны ў горадзе пачалася паніка. Бацька ноччу прыехаў дахаты і стаў раіцца, як быць далей. Затым узяў ровар, развітаўся і паехаў назад у Вілейку. У гэты час абкамаўскія чыноўнікі праводзілі эвакуацыю сваёй маёмасці. На абкамаўскія машыны нікога не бралі, бо на іх вывозілі розныя шафы, фікусы. Бацька на ровары пакаціў на ўсход. Праехаў ужо кіламетраў 50 ад Мінска і ўбачыў міліцэйскую машыну з Вілейкі. Кіраваў машынай **Мікалай Калясень** з Міцькавічаў. Ён пры Польшчы праводзіў праз граніцу тых, каму было трэба. Палякі злавілі яго і далі пажыццёвае зняволенне. А як прыйшлі саветы, Мікалая Калясня вызвалілі і ён стаў працаваць у міліцыі. Яго машына рухалася вельмі павольна ў людскім натоўпе. На ёй ехала чалавек 10 міліцыянераў і нейкія бабы з клункамі. Бацька стаў прасіць Мікалая: "Вазьмі мяне". А той нават увагі на яго не звярнуў. Тады бацька кінуў свой ровар і ўзяўся за барты машыны. Калясень ударыў бацьку па руках. Скончыліся бацькавы прыгоды тым, што ва Усходняй Беларусі ён пайшоў да сваякоў у раёне ракі Бярэзіны. У сакавіку 1942 года ён вярнуўся дадому і стаў працаваць у нашай школе.

Пры немцах наша школа адчынілася не 1 верасня 1941 года, а значна пазней. Па-ранейшаму ў школе выкладалі свае прадметы мая маці, пані Гелена і Моніка Глушаніна. Першы год я вучылася ў нашай школе. У 1942/43 навучальным годзе – ужо ў Крывічах. Дырэктарам школы быў матэматык **Савінскі**. Выкладанне вялося па-беларуску".

**Запісаў Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

16 ЛЮТАГА

**1895.** Нарадзіўся **Франц Кушаль** (в. Пяршаі, цяпер Валожынскі раён), беларускі ваенны і палітычны дзеяч, публіцыст. Муж паэтэсы Наталлі Арсенневай. Аўтар успамінаў пра дзеячаў беларускай культуры. Добра пра яго расказваецца ў рамане Кастуся Акулы "Змагарныя дарогі". Памёр у 1968 годзе ў Рочэстэры, ЗША.

17 ЛЮТАГА

**1806**. Нарадзіўся **Канстанцін Тышкевіч**, беларускі гісторык, археолаг, краязнаўца, адзін з заснавальнікаў беларускай археалогіі. У 1856 арганізаваў экспедыцыю па рацэ Віліі, у выніку якой сабраў багаты этнаграфічны матэрыял і напісаў краязнаўчую манаграфію "Вілія і яе берагі". Штогод, пачынаючы ад 2007 года, з Вілейскага раёна бярэ старт водная экспедыцыя "Шляхам Тышкевіча". Яе прымеркавалі да 150-годдзя вядомага падарожжа па Віліі. Вандроўнікі прайшлі па слядах экспедыцыі Тышкевіча ад вытокаў Віліі да зліцця з Нёманам. Арганізатарамі і ўдзельнікамі першай воднай экспедыцыі сталі літоўскія і беларускія навукоўцы, краязнаўцы і турысты. Сёння яна набывае больш папулярызатарскі і турыстычны характар і заканчваецца на тэрыторыі Беларусі. Памёр у 1868 годзе ў Мінску.

18 ЛЮТАГА

**125 гадоў** з дня нараджэння **Максіма Гарэцкага** (1893 – 1938), беларускага пісьменніка, дзеяча беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння, літаратуразнаўцы, лексікографа, фалькларыста. Адзін з пачынальнікаў нацыянальнай мастацкай прозы. Зрабіў вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры і фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці. Ахвяра сталінскіх рэпрэсій.

19 ЛЮТАГА

**1890.** Нарадзіўся **Казімір Сваяк** (сапр. Канстанцін Стаповіч; в. Барані, цяпер Астравецкі раён), паэт, беларускі каталіцкі святар, грамадска-нацыянальны дзеяч. Памёр 6 мая 1926 года ў Вільні.

**110 гадоў** з дня нараджэння **Станіслава Шушкевіча** (1908 – 1991), беларускага паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі.

21 ЛЮТАГА

**Міжнародны дзень роднай мовы.** Адзначаецца ад 2000 года з ініцыятывы ЮНЕСКА дзеля захавання культурных традыцый усіх народаў.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.






Андрэй Дударчык, Вілейка, дэпутат.



Алесь Раткевіч, Чысць, былы дэпутат.



Кацярына Шытыка, Маладзечна, кандыдат у дэпутаты.



Андрэй Душэўскі, Маладзечна, кандыдат у дэпутаты.

# "Дэпутата па-ранейшаму выбіраюць па касцюме і думаюць, што ён ідзе красці"

## Пра што гутарылі ўдзельнікі круглага стала "Эфектыўнасць дэпутацкай дзейнасці"

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**Ці можна звярнуцца да дэпутата, калі ў вашым двары яма на дарозе? Ці плацяць грошы раённым дэпутатам? Як мяняецца актыўнасць выбаршчыкаў?**

На гэтыя і іншыя пытанні шукалі адказ удзельнікі круглага стала "Эфектыўнасць дэпутацкай дзейнасці", што зладзіла рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" 9 лютага.

На круглы стол запрасілі людзей, дзейнасць якіх у той ці іншай ступені звязаная з працай раённых дэпутацкіх корпусаў. Па прапанаваных пытаннях выказваліся былы дэпутат жыхар Чысці **Алесь Раткевіч**, віляйчанін, дырэктар вілейскага кінатэатра "Мір", дэпутат **Андрэй Дударчык**, а таксама дырэктары прыватных прадпрыемстваў Маладзечна **Андрэй Душэўскі** і **Кацярына Шытыка**, якія балатуюцца ў дэпутаты.

### Два чалавекі пахваляць, а 22 – праклянуць

**"Рэгіянальная газета":**

– Распавядзіце пра свой досвед дэпутацкай дзейнасці, матывацыю, бачанне працы дэпутата:

**Андрэй Дударчык:**

– Чаму балатуюся? Шчыра ўпэўнены, што я магу нешта зрабіць. Балатуюся ўжо трэці раз, але яшчэ засталіся нявыкананыя даручэнні з часоў першага склікання. Я памятаю пра іх.

Першыя выбары запомніліся як найбольш складаныя. З сапернікам мы былі аднолькава энергічныя і ініцыятыўныя. І я перамог. Суадносіны галасоў тады былі 60 на 40. Гэта сапраўдная барацьба, а не 98 на 2.

У нашай дзейнасці як? Зробіш што-небудзь для людзей – два чалавекі будуць задаволеныя, а 22 цябе праклянуць. Гэта толькі пацвердзіла сітуацыя з вілейскім анкадыспансерам.

Калі я чытаю праграмы кандыдатаў у дэпутаты, адразу бачна, што многія з іх балатуюцца ўпершыню. Ну, як можна напісаць "я пабудую"?

Важна не пабудаваць, а не даць разбурыць. У нас як у дактароў: галоўнае, не нашкодзіць.

**Кацярына Шытыка:**

– Я балатуюся ўпершыню. Магчыма, дэвіз, з якім я іду ў дэпутаты, наіўны, якраз з тых, пра якія казаў Андрэй Дударчык. Я настроеная слухаць людзей і працаваць для людзей. Лічу, што ў дэпутаты павінны ісці людзі з вялікім добрым сэрцам. Я іду дапамагаць людзям. Але тут важна, каб і людзі падтрымлівалі. Мне было вельмі крыўдна, калі, сабраўшы подпісы за вырашэнне праблемы з вілейскім анкадыспансерам, чула шмат нядобрых слоў у свой адрас.

### "Тата, а чаму ў нас адзін агульны фотаздымак?"

**Андрэй Душэўскі:**

– Грамадскую дзейнасць я пачаў даўно. А цяпер адчуў, што прыйшоў час вылучыцца ў дэпутаты. Разумею, што дэпутацтва адаб'ецца на часе, праведзеным з сям'ёй. У мяне ўжо дзіця пыталася: "Тата, а чаму ў нас з табой толькі адзін агульны фотаздымак?"

Вельмі хочацца, каб, нарэшце, улада пачала прыслухоўвацца да ініцыятыўных бізнесменаў, да дэпутатаў. Аднак пакуль ім праблему лепш закрыць, чым абмеркаваць і вырашыць. Паўнамоцтвы дэпутатаў мясцовых саветаў невялікія, але на ўзроўні раёна даволі значныя.

Чатыры гады таму я склаў спіс аб'ектаў, якія пустуюць у горадзе. Збіў гэта для таго, каб прапаноўваць маладым прадпрымальнікам будынкі, але не на ўмовах арэнды. Гораду патрэбныя працоўныя месцы, а не гандлёвыя цэнтры. Чаму б не падхапіць гэту ініцыятыву?

У дэпутаты павінны ісці маладыя і амбіцыйныя. У іх ёсць неабходная працаздольнасць. Напрыклад, Кацярына Шытыка працуе ў такім бізнесе, што трэба раскладушку і начаваць, а тым не менш у яе ёсць час і сілы на ініцыятывы.

### Выбаршчыкі звяртаюць увагу на знешнасць і прыгожы касцюм

**"РГ":**

– Як змянілася актыўнасць выбаршчыкаў за апошнія некалькі год.

**Андрэй Душэўскі:**

– Яна роўная нулю. Нядаўна праводзіў пікеты. Многія людзі не разумелі, чаму я тут стаю. Некаторыя баяліся падыходзіць. Калі даведваліся, што балатуюся ў дэпутаты, у лепшым выпадку чуў: "Нічога вы не зменіце." У горшым – фразы кшталту: "О! Красці ідзе!" або "Во! Якую морду наеў!" Хочацца спытаць: "Што красці?".

> **Людзі па-ранейшаму думаюць, што раённыя дэпутаты зарабляюць вялікія грошы. Гэта раней ім крыху плацілі, а цяпер не плацяць.**

**Кацярына Шытыка:**

– Сапраўды, вельмі непрыемна чуць ад людзей: "У бізнесе не зарабіла, дэпутатам хочаш зарабіць!"

**Андрэй Дударчык:**

– У людзей у свядомасці ўсё яшчэ дэпутаты, якія сядзяць у авальнай зале і атрымліваюць вялікія грошы.

Я не стаў бы гаварыць, што актыўнасць роўная нулю. Я сказаў бы так: яна не змянілася. Мне шкада нашых выбаршчыкаў. Большасць з іх уяўленне не мае пра тое, чым займаюцца дэпутаты. Вядома, і сярод дэпутатаў ёсць нядобрыя людзі, але не варта па гэтых адзінках меркаваць пра ўсіх. Распавесці вам, як людзі ідуць выбіраць дэпутата? 60% паглядзіць на фотаздымак і падумае: "О, гэты прыгожы. За яго прагаласую. А гэты злосны. За яго не буду". Яшчэ колькі працэнтаў выбаршчыкаў звернуць увагу на дарагі касцюм кандыдата.

Пра якую актыўнасць можна казаць, калі ў Маладзечне толькі ў чатырох выбарчых акругах ёсць альтэрнатыва. У Вілейцы падобная сітуацыя.

### Ходзяць скардзіцца дзеля скаргі

**"РГ":**

– З якімі самымі балючымі пытаннямі да дэпутатаў звяртаюцца людзі?

**Андрэй Дударчык:**

– Людзі перакананыя, што дэпутат павінны вырашаць праблемы ЖКГ. Выбаршчыкаў хвалюе святло на вуліцы і ямы на дарогах. Дастаткова такіх праблем на вёсцы. Жыхары раёна – вельмі ўдзячная глеба для працы дэпутата. Там дастаткова народ пахваліць, што яны змагаюцца з гэтай ямай, і людзі пачнуць паважаць цябе.

**Андрэй Душэўскі:**

– Да дэпутата людзі ідуць ад безвыходнасці, калі ўжо абхадзілі ўсе інстанцыі: і ЖКГ, і райвыканкам. Але людзі не думаюць, што шмат залежыць і ад іх. Гэта

## Што пра працу дэпутатаў гаварылі на круглым стале:




яшчэ адгалоскі савецкага мінулага, калі любую праблему ішлі вырашаць у партыю. Калі яма пры выездзе з майго двара, то я сам прывязу неабходныя матэрыялы і адрамантую дарогу.

Неяк да нас прыходзіла жанчына і скардзілася, што ў іх у пад'ездзе святло не гарыць. Яна ўсё хадзіла, а прасцей было сабрацца ўсім пад'ездам і купіць лямпачку. Гэта ж ваша бяспека і вашых дзяцей. Большасць людзей ходзіць скардзіцца толькі дзеля скаргі.

І атрымліваецца, што дэпутат вырашае праблемы ям і лямпачак, якія б маглі вырашыць і без яго. Няўжо ў раёне няма больш важных праблем? У горадзе – беспрацоўе, прадпрыемствы не будуюцца!

Дэпутату таксама варта падумаць пра тое, дзе ён будзе прымаць грамадзян. Напрыклад, калі дэпутат – дырэктар завода з прапускным рэжымам, то як да яго патрапіць на прыём?

Менавіта дэпутаты павінны ўплываць на працу аддзела эканомікі райвыканкама. Сачыць, каб прыцягваліся замежныя інвестыцыі, адкрывалася вытворчасць, ствараліся працоўныя месцы.

**Кацярына Шытыка:**

– Тут вельмі паказальны прыклад суседняй Смаргоні. Адкуль узяўся "Кранаспан" з добрымі заробкамі і працоўнымі месцамі? Гэта ўсё замежныя інвестыцыі. Там цяпер кватэру наняць каштуе, як у Мінску. А гэта ўсё праца каманды – і мясцовых уладаў, і дэпутатаў.

**Андрэй Дударчык:**

– Пагаджуся з Кацярынай. Неяк мы, вілейскія дэпутаты, ездзілі ў Смаргонь. Старшыня райвыканкама сустрэў нас на вуліцы, а не ў кабінеце. Там працуюць смелыя людзі, яны не баяцца ініцыятыў. У невялікай Смаргоні пабудавалі агрэгатны завод, робяць браніраваныя аўтамабілі і посуд адзін з лепшых. Чаму б гэтаму ўсяму не быць у Вілейцы?

Не разумею, чаму мясцовыя ўлады не заўсёды хочуць супрацоўнічаць з дэпутатамі? Гэта ж такая дапамога! Сярод дэпутатаў шмат уплывовых бізнесменаў. Такія людзі, як Андрэй Душэўскі, падключаць асабістыя сувязі і праблему змогуць вырашыць хутчэй, чым выканкам.

### Алесь Раткевіч: дэпутацкі корпус сёння не патрэбны

**Алесь Раткевіч:**

– А я лічу, што ў такім выглядзе, як сёння, дэпутаты не патрэбныя! Вось, атрымаў паведамленне пра выбары. Нават не падпісалі, каму яно адрасаванае. Лічу, што празрыстасць выбараў усё цямней.

**Вось вы кажаце, што я – выбаршчык – вінаваты ў сваёй пасіўнасці. Вы перакладаеце ўсю адказнасць на мяне. А я да гэтых скрынь не хаджу ўжо два ці тры гады.**

Адзін раз схадзіў за гэты час толькі для таго, каб паглядзець, ці не паставілі мой подпіс у ведамасці.

Працу дэпутата добра ведаю. Двойчы быў дэпутатам сельсавета, працаваў у выбарчай камісіі. За год да заканчэння майго дэпутацтва здарыўся такі выпадак. Праводзілі справаздачна-выбарную сесію. Старшыня павінны быў сабраць усіх дэпутатаў у сельсавеце. Прыйшлі тры чалавекі, бо сярод дэпутатаў – дырэктары прадпрыемстваў, у якіх сваіх спраў хапае. І правялі сесію з трыма дэпутатамі. Пасля па маёй ініцыятыве сесію правялі паўторна, старшыню знялі. Праз гэта я стаў вельмі непажаданым у раёне.

За восем год я столькі нагледзеўся, што перастаў хадзіць на выбары. Скажыце, што рабіць у дэпутатах дырэктарам прадпрыемстваў? Хай лепш кіруюць.

Ці вось яшчэ выпадак. Неяк у Чысці старшыня сельвыканкама і дэпутат былі ў адной асобе. Напрыклад, я хачу схадзіць да дэпутата паскардзіцца на старшыню. Што мне рабіць?

Чаму я не павінны ісці да дэпутата, калі ў мяне яма ў двары? А да каго мне ісці?

Неяк у Чысці хацелі адключыць ацяпленне, каб людзі ўстанавілі новыя катлы. І дакумент пра гэта напісалі. Як дэпутаты маглі такое падтрымаць?

**Андрэй Дударчык:**

– У паўнамоцтвы дэпутатаў не ўваходзіць дзейнасць ЖКГ. І калі б грамадзяне звярнуліся да дэпутатаў з просьбай адмены гэтай дырэктывы, дэпутаты б, хутчэй за ўсё, іх падтрымалі. У Вілейцы неяк хацелі адключыць на два тыдні гарачую ваду, і толькі дзякуючы дэпутату не адключылі.

**Алесь Раткевіч:**

– Былі звароты да дэпутатаў. І яны адмовіліся нам дапамагчы. Я дабіўся адмены гэтага загаду, але толькі тады, калі дайшоў да Міністэрства ЖКГ. Уявіце, колькі патраціў нерваў, часу і паперы. Альбо ў Чысці такое прадпрыемства развалілася – "Забудова"! Што дэпутаты зрабілі, каб гэтага не дапусціць?

**Андрэй Душэўскі:**

– Вам адзін дэпутат не дапамог. Не варта праз гэта асуджаць усіх.

**Алесь Раткевіч:**

– Магчыма, так адбылося таму, што дэпутат, часцей за ўсё, – залежны чалавек. Як, напрыклад, чысцінскі доктар **Наталля Люцко**. Яна выдатны спецыяліст, але як дэпутат зрабіць нічога не можа з-за сваёй залежнасці.

**Андрэй Душэўскі:**

– Так. Гэта таму, што яна на дзяржаўнай службе. А мы з Кацярынай кіруем прыватнымі прадпрыемствамі і не залежым ад дзяржструктур. Таму я не разумею, чаму, маючы на гэта час і жаданне, мы не можам пайсці ў дэпутаты. Да таго ж я – чалавек бізнесу. А 70 працэнтаў гарадскога бюджэту – гэта падаткі бізнесменаў. Я маю права ведаць, куды ідуць мае грошы.

### Таблічка з прозвішчам – гэта нясціпла

**Алесь Раткевіч:**

Разам з актыўнымі людзьмі ў 2011 мы адрамантавалі помнік у вёсцы Боркі на Вілейшчыне, упарадкавалі тэрыторыю, зрабілі ўказальнік. Дэпутат дапамог толькі адзін – **Таццяна Косцік**. Ні ў райсавеце, ні ў выканкаме нават дзякуй не сказалі. 13 лістапада хацелі ўрачыста адкрыць помнік. Але нас апярэдзілі. 12 лістапада Хаценчыцкі сельсавет запрасіў тэлебачанне і расказаў, якія яны, работнікі сельсавета, малайцы – помнік добраўпарадкавалі.

**Андрэй Душэўскі:**

– У дэпутацкай дзейнасці ўсё залежыць ад каманды. А калі дэпутаты – сабе, райвыканкам – сабе, то нічога не атрымаецца. Знаёмая сітуацыя з помнікам, пра якую распавёў Алесь Раткевіч. Да 75-годдзя Перамогі я правёў футбольны турнір для дзяцей, бо для мяне гэта свята – вельмі важнае. 18 камандаў заявілася. А пасля па мясцовым тэлебачанні сказалі, што гэта рабіў выканкам.

**Андрэй Дударчык:**

**– Урэшце, якая розніца, райвыканкам ці канкрэтны чалавек. Галоўнае – вынік. Адрамантаваны помнік, задаволеныя дзеці. Так часта бывае ў дэпутацкай дзейнасці.**

Вынік ёсць, проста марудны. Напрыклад, у маёй акрузе паставілі два крытыя прыпынкі, адрамантавалі шэсць дамоў, цяпер выбаршчыкі просяць дзіцячую пляцоўку.

Часта дэпутату ўвогуле нешта даводзіцца рабіць за свае грошы. Так было з дошкай па **Анатолю Рогачу**. Толькі чаму дэпутатам не даюць паказаць, што яны гэта зрабілі? Я даўно прапаноўваў адрамантаваць дзве палаты ў бальніцы. Пагадзіліся. Але калі прапанаваў, каб ля палаты вісела таблічка, за чые сродкі яе адрамантавалі, адразу сказалі: "Не. Гэта нясціпла". Чаму тады ў Смаргоні гэта нармальная з'ява?

**"РГ":**

– Ці магчыма павысіць эфектыўнасць працы дэпутатаў:

**Андрэй Душэўскі:**

– Магчыма. Трэба, каб у дэпутаты ішлі маладыя, працаздольныя, амбіцыйныя. У 60 год ужо няма амбіцый. Трэба, каб ішлі людзі бізнесу. Бізнес будуецца на асабістых кантактах, якія могуць прынесці карысць для дзейнасці дэпутата. Такія кантакты заўсёды важныя: не адправіць факс у райвыканкам праз сакратарку, а прыйсці і асабіста пагутарыць з кіраўніком.

**Кацярына Шытыка:**

– Лічу, што СМІ больш павінны пісаць пра дзейнасць дэпутатаў, каб людзі ведалі, чым яны займаюцца, што добрага зрабілі.

**Алесь Раткевіч:**

– Сапраўды, не трэба саромецца таго, што ты зрабіў нешта добрае. Дэпутаты павінны мець сваю пазіцыю, не баяцца выказваць асабістую думку. Я шкадую, што шмат пра што маўчаў, калі быў дэпутатам. А яшчэ для эфектыўнасці трэба, каб мясцовыя ўлады не перашкаджалі ініцыятывам дэпутатаў. І ўсё ж у такім выглядзе, як сёння, дэпутацкі корпус не павінны быць.

**Андрэй Дударчык:**

– Эфектыўнасць – гэта сімбіёз дзейнасці і супрацоўніцтва. Трэба ісці ў адным накірунку, хай сабе і рознымі шляхамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота Наталлі ТУР.**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ. ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 3)

## Ладдзя: вучымся хадзіць і біць

*Ладья всегда ходит прямо, – запомни!*
*И бьет она прямо, – упрямая очень.*

**У шахматнай мове існуюць паняцці: вертыкалі і гарызанталі.**

Дзецям запомніць гэта цяжка, таму замацавалася паняцце – хадзіць "прама", хадзіць "наўскос".

Дык вось ладдзя ходзіць прама, прычым можа як на адну клетку, так і адразу на край дошкі.



Чорная ладдзя за адзін ход можа пайсці на любое поле, якое было адзначанае зорачкай. Пакажы, куды можа пайсці белая ладдзя за адзін ход?



А вось і адказ.

І чорная ладдзя, і белая пры сваім ходзе могуць пабіць фігуру супрацьлеглага колеру, калі яна, фігура, трапіцца на шляху.

Прыклад:



Чорная ладдзя пры сваім ходзе можа пабіць або белую пешку, або белага каня. Але, напрыклад, белага слана яна пабіць за адзін ход не можа. Белы слон стаіць за канём, а пераскокваць ладдзя не ўмее.

Белая ладдзя пры сваім ходзе можа пабіць любога чорнага слана на выбар. Чорную пешку ці чорнага каня. А вось пешку, якая стаіць за канём, яна пабіць не можа. Чорны конь быццам прыкрывае чорную пешку.

Узяцце ў шахматах адбываецца так: бітая фігура знімаецца з дошкі, а на яе месца ставіцца фігура, якая б'е.

Прыклад:



Чорная ладдзя пабіла белага каня.

Белая ладдзя пабіла чорнага каня.

Дарэчы, у шахматах саперніскі робяць хады па чарзе.

### Заданне

Пасадзіце дзяцей адзін насупраць другога. Назавіце аднаго важаком белых фігур, а другога – чорных. Аднаму вучню пастаўце на дошку чорную ладдзю, а другому – белую.

Хай ходзяць ладдзямі па чарзе правільна. Прасачыце за правільнасцю хадоў. Той, хто саб'е чужую ладдзю – выйграў. Калі дзеці досыць натрэніруюцца хадзіць адной ладдзёй, дадайце яшчэ пару гэтых фігур. Сачыце, каб юныя шахматысты рабілі хады правільна, не хадзілі ладдзямі ўбок, ставілі фігуркі ў цэнтр палёў, правільна збівалі чужых ладдзей.

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

## У Вілейцы пройдуць спаборніцтвы па дартсе. Удзельнічаць можа кожны ахвотны

ВІЛЕЙКА

17-18 лютага на другім паверсе басейна "Сатурн" адбудуцца адкрытыя спаборніцтвы па дартсе.

Пра гэта распавёў арганізатар спаборніцтваў **Міхаіл Шульжыцкі**.

– Гэта не простыя спаборніцтвы, а трохбор'е. Удзельнікі пазмагаюцца ў дыяганалі, раўндзе і мішэнях.

Міхаіл Шульжыцкі распавёў, што ўзнагародзяць пераможцаў у кожным этапе, а галоўны пераможца вызначыцца па выніках усіх трох этапаў.

– На сёння зарэгістраваліся для ўдзелу пакуль толькі шэсць чалавек, аднак заўякі будзем прымаць літаральна да 10 гадзін у суботу.

Зарэгістравацца можна ў басейне, або па тэлефоне **8-044-767-81-09**.

**Наталля ТУР.**

# Школу футбола адкрыюць у Астраўцы

АСТРАВЕЦ

**Нашым чытачам ужо знаёмае імя Аляксандра Кушнера. Менавіта ён стварыў першую прыватную школу футбола Fair Play ў Ашмянах.**




Выхаванцы футбольнай школы з Ашмянаў перад пачаткам матча.

Прайшоў час, і вось сёлета школа Аляксандра Кушнера стане філіялам Акадэміі АБФФ (Асацыяцыя "Беларуская федэрацыя футбола"), а таксама яшчэ адна падобная школа адкрыецца ў Астраўцы.

**– Як атрымалася, што прыватная школа стала філіялам Акадэміі АБФФ?**

– Дзякуючы шматгадоваму супрацоўніцтву футбольнай акадэміі Fair Play і АБФФ атрымалася наладзіць па-сапраўднаму партнёрскія адносіны з аддзелам масавага футбола, які ўзначальвае **Віталь Крупіца**. Таксама нам насустрач пайшоў першы намеснік старшыні АБФФ **Сяргей Сафар'ян**. І ў адпаведнасці з пагадненнем, футбольная акадэмія Fair Play мае прыярытэтнае права адкрываць філіялы Акадэміі АБФФ ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**– Што ад гэтага зменіцца для школы і яе выхаванцаў?**

Дзеці будуць часткай структуры Акадэміі АБФФ, якая з'яўляецца на сённяшні дзень базай падрыхтоўкі юніёрскіх, юнацкіх, моладзевых і нацыянальных зборных Беларусі. Тэхнічны дэпартамент АБФФ будзе аказваць матэрыяльна-тэхнічную дапамогу, а таксама будзе каардынаваць і цалкам кантраляваць нашу дзейнасць па падрыхтоўцы дзяцей. У кожнага дзіцяці будзе магчымасць дасягнуць сваёй футбольнай мары, патрапіўшы ў прафесійны футбол. Для ўсіх без выключэння дзяцей будуць створаны аднолькава спрыяльныя ўмовы для самаразвіцця, у першую чаргу, як асоб, якія будуць адаптаваныя да жыцця не толькі ў футболе.

**– Дзяцей якога ўзросту вы цяпер набіраеце ў падрыхтоўчыя групы? Ці ёсць групы жаночага футбола?**

У наборы дзеткі 2007, 2008-09, 2010-11, 2012-13, 2014-15 г.н. Таксама працягваецца праца з узроставай катэгорыяй 2003-04, 2005-06 г.н. Асобных груп, дзе цяпер займаюцца дзяўчынкі, у нас няма. Бо ва ўзроставай групе ад 2007 да 2015 г.н. не мае сэнсу дзяліць дзетак па палавой прыкмеце. Калі ўзрост дзяўчат будзе падыходзіць да адпаведных межаў, вядома, яны будуць выведзеныя ў асобныя падрыхтоўчыя групы. Цяпер хлопцы і дзяўчаты займаюцца разам.

**– Ці ёсць у школы свае "выпускнікі"? Дзе гуляюць, у якіх камандах?**

На сённяшні дзень некалькі нашых выхаванцаў 1999-2000 г.н. знаходзяцца ў шэрагах дублюючага складу ФК "Прамень" Мінск, першая каманда аднайменнага ФК выйшла ў мінулым сезоне ў вышэйшую лігу Беларусі па футболе. Яшчэ некалькім хлопцам 2001 г.н. мы дапамагаем з пошукамі клуба.

**– Чаму другую школу адкрываеце менавіта ў Астраўцы? І калі плануецца адкрыццё?**

Адкрыццё філіяла ў Астраўцы не толькі маё рашэнне, але і рашэнне АБФФ. Пасля Астраўца афіцыйны статус філіяла Акадэміі АБФФ атрымае і наша футбольная школа ў Ашмянах. У Астраўца вялікі футбольны патэнцыял і шмат ахвотных сярод дзетак займацца футболам. Мы ўпэўненыя, што адкрыццё філіяла Акадэміі АБФФ дасць магчымасць развіцця масавага футбола ў гэтым горадзе. Бо гэта наша адна з асноўных мэтаў. Другая мэта, якую мы праследуем сумесна з АБФФ, праз 10-12 гадоў атрымаць першую хвалю выхаванцаў, якія павінны будуць папоўніць шэрагі зборных Беларусі.

**Афіцыйнае адкрыццё філіяла плануецца на канец лютага – пачатак сакавіка гэтага года.**

**– Раскажыце пра трэнераў. Колькі іх? Якога ўзросту? Трэніруюць дзяцей па еўрапейскай сістэме?**

Пакуль я працую адзін, але вядзецца актыўны пошук калегаў, якія будуць дапамагаць мне ў трэніровачным працэсе. На сённяшні дзень няма абавязковых узроставых крытэраў, галоўнае, футбольны досвед і жаданне развівацца ў футбольнай галіне. АБФФ плануе забяспечыць усіх трэнераў філіялаў магчымасцю атрымання трэнерскіх ліцэнзій D і C. Падрыхтоўка дзяцей будзе весціся па сістэме, распрацаванай Акадэміяй АБФФ і Тэхнічным дэпартаментам АБФФ, а таксама па нямецкай сістэме падрыхтоўкі, з якой я пазнаёміўся ў Берліне падчас сваёй стажыроўкі ў 2017 годзе.

**– Пахваліцеся самымі буйнымі для вас дасягненнямі і перамогамі за час існавання школы.**

Мэта нашай працы з дзецьмі з'яўляецца не здабыццё кубкаў, медалёў і граматаў. Мы імкнёмся ў кожнай канкрэтнай гульні дасягаць перамогі і развівацца. За пяць гадоў працы школы мы былі пераможцамі і прызёрамі шматлікіх турніраў як у Беларусі, так і ў Еўропе. Але мы прытрымліваемся наступнага прынцыпу ў дзіцячым футболе: на вынік у футболе, як і ў любым іншым відзе спорту, глядзяць толькі на фінішы, а ні ў якім разе не на старце альбо на дыстанцыі! У выпадку дзейнасці футбольнай акадэміі Fair Play фінішам з'яўляецца падрыхтоўка дзяцей да дарослага, прафесійнага футбола. Для тых дзяцей, хто па нейкіх прычынах не здолее перайсці ў прафесійны спорт, заняткі футболам будуць добрай школай і дапамогуць знайсці сваё месца ў дарослым жыцці.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Паміж ноччу і днём.
4. Чэрчыль: "Калі ... забойцу, колькасць забойцаў не зменіцца".
6. Водны паток.
9. Прымяненне фізічнай сілы, здзек.
11. Ядавітая змяя шэрага колеру з чорнай зігзагападобнай паласой уздоўж спіны.
12. Усход сонца.
13. На нашай планеце яна мае тры станы.
14. Ударны музычны інструмент у выглядзе абцягнутага скурай шырокага абруча з металічнымі бразготкамі.
21. Гэтыя ападкі падаюць не з неба.
24. Самае страшнае для лесу.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Аднагадовая агародная расліна сямейства паслёнавых.
2. Натуральны вадаём.
5. Цыкл мастацкіх твораў аднаго жанру.
7. Лінія, паласа, праведзеная вакол.
8. Прадстаўнік сваёй краіны ў іншай.
10. Калі чалавек памацае іх, пах чалавека адпудзіць птушку і патомства загіне.
14. Рошчына з соладу, мукі і бульбы, з якой гоняць спірт.
15. Фігура, утвораная замкнутай крывой, якая нагадвае форму падоўжанага разрэзу яйка.
16. Хан, унук Чынгісхана.
17. Старажытнарымская багіня прыгажосці, шлюбу і нараджэння.
18. Першыя, хто меў сцягі.
19. Герб гэтага горада – на сінім шчыце белы лук з нацягнутай цецівой і стралой, накіраванай у неба.
20. Спецыяліст, які займаецца вывучэннем побыту і культуры старажытных народаў па помніках, што захаваліся.
22. Імя манаха, які напісаў "Аповесць мінулых часоў".
23. Іван IV Жахлівы загадаў яго пакараць за тое, што адмовіўся стаць на калені.

## Адказы на крыжаванку з №5

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Пацукі. 5. Сэрца. 9. Ізабара. 10. Скрыпка. 12. Панда. 14. Сіні. 16. Ядро. 18. Амазонка. 19. Краса. 20. Ярус. 22. Млын.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Лагойск. 3. Ірыс. 4. Пяхота. 6. Пяшчота. 7. Прымак. 8. Муравей. 9. Інструкцыя. 11. Інакш. 13. Прыбой. 15. Ідэал. 16. Яліна. 17. Халера. 21. Арлан.

## ● ГАРАСКОП 16-22 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Вы сустрэнеце людзей, з якімі зможаце пагаварыць на самыя сур'ёзныя і абстрактныя тэмы, накшталт чалавечай псіхікі, духоўнага развіцця, сакрэтаў Сусвету.



**ЦЯЛЕЦ.** Спрыяльны перыяд для кар'ернага росту ці якіх-небудзь пачынанняў, звязаных з работай і фінансавым станам. Але не перастарайцеся, расходуйце сілу ў меру. Час спрыяльны для навядзення дамашняй утульнасці, а таксама для розных касметычных працэдур.



**БЛІЗНЯТЫ.** Перш чым выказваць сваё меркаванне, трэба добра прадумаць словы, якія вы збіраецеся сказаць. Крытычныя выказванні трымайце пры сабе. І ўвогуле сачыце за тым, што вы гаворыце, бо можаце сказаць шмат лішняга. Час ад часу заставайцеся сам-насам, каб прывесці свае думкі і пачуцці ў парадак.



**РАК.** Самы час запісацца на курсы замежных моў. Зоркі кажуць, што вы можаце ўбачыць свет па-новаму і адрадзіць некаторыя старыя ідэі, злёгку падкарэктаваўшы.



**ЛЕЎ.** Зоркі абяцаюць шмат кантактаў і паездак. Прыйдзецца разлічваць толькі на ўласныя сілы. Цяпер займіцеся тымі справамі, якія доўгі час адкладвалі.



**ДЗЕВА.** Не гуляйце з агнём, але і не бойцеся яго, бо ён жа не апячэ, пакуль вы самі не засунеце ў яго руку. Так і ў асабістым жыцці.



**ШАЛІ.** Спрабуйце сябе ў тым, чым ніколі не займаліся. Пазбаўцеся ад усяго таго, што аджыло, каб упусціць свежае паветра ў ваша жыццё. Разбярыцеся са старымі рэчамі і пачуццямі і выкіньце хлам не толькі з дома, але і з галавы.



**СКАРПІЁН.** Дзякуючы сваёй здольнасці разумець матывы людзей, вы можаце лёгка выйсці з любых складаных сітуацый і дапамагчы выйсці іншым. А дзякуючы пранікліваcці зможаце вырашыць шмат важных пытанняў.



**СТРАЛЕЦ.** Месяц пачынае расці, і ў вас прыбываюць сілы. Гэты час добра прысвяціць дзелавому і свецкаму жыццю, кар'еры. На выхадных разважайце, плануйце, накоплівайце рэсурсы і сілы, сустракайцеся з сябрамі – гэта зарадзіць вас бадзёрасцю.



**КАЗЯРОГ.** Пагоня за сіняй птушкай удачы, нарэшце, увянчаецца поспехам, што дазволіць вам паверыць у свае магчымасці. Аўтарытэт ваш на высокім узроўні, навакольныя будуць прыслухоўвацца да вашага меркавання.



**ВАДАЛЕЙ.** Займіцеся сваім унутраным светам, пабудзьце ў адзіноце. Адмоўцеся ад сустрэч і вечарынак, ад новых перажыванняў і пачуццяў. Вазьміце сабе эмацыйны адгул. Для вас гэта будзе самым карысным дзеяннем, бо ў навакольным асяроддзі цяпер не будзе адбывацца нічога добрага і каштоўнага для вас. А якія-небудзь актыўныя і накіраваныя вонкі спробы разабрацца ў сваім асабістым жыцці не прывядуць да патрэбнага выніку. Звярніцеся ўнутр сябе, там вы знойдзеце ўсе неабходныя адказы.



**РЫБЫ.** Жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага. Не будзьце прывязаныя да меркавання грамадства. Будзьце адкрытыя для любой магчымасці ці ідэі. Вы здзівіцеся, як шмат магчымасцяў дае жыццё, калі іх не адкідаць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | 6 | 1 | 8 | | | | |
| 8 | | | 3 | 5 | | | | 9 |
| | 9 | 1 | 2 | | 7 | | | |
| | | 4 | 7 | | | | | |
| 7 | | | 4 | | | | | 2 |
| | 8 | | 5 | | | | | 6 |
| 5 | | | 6 | | | 9 | | |
| | 4 | | 8 | | | | 2 | 3 |
| 2 | | | | 1 | | | 5 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 5 | 6 | 1 | 8 | 9 | 2 | 7 | 4 |
| 8 | 7 | 2 | 3 | 5 | 4 | 1 | 6 | 9 |
| 4 | 9 | 1 | 2 | 6 | 7 | 3 | 8 | 5 |
| 6 | 2 | 4 | 7 | 3 | 8 | 5 | 9 | 1 |
| 7 | 1 | 5 | 4 | 9 | 6 | 8 | 3 | 2 |
| 9 | 8 | 3 | 5 | 2 | 1 | 7 | 4 | 6 |
| 5 | 3 | 8 | 6 | 4 | 2 | 9 | 1 | 7 |
| 1 | 4 | 9 | 8 | 7 | 5 | 6 | 2 | 3 |
| 2 | 6 | 7 | 9 | 1 | 3 | 4 | 5 | 8 |

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

Прэм'ера. "**Дырыжор**" 16+ (монадрама ў адной дзеі), *Лявон Агулянскі*

16 лютага – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Прыгажуні**" 16+ (амерыканская камедыя ў 2-х дзеях), *Айван Менчэл*

22 лютага – у 19:00

**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

"**Шчаўкунчык**" 3+ (музычная казка для дзяцей па матывах казкі Э.Т.А.Гофмана)

24 лютага – у 11:00 і 13:00

"**Тарас на Парнасе**" 12+ (народная забава з мядзведзем у 2-х дзеях), *Сяргей Кавалёў*

24 лютага – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Ну, вы даяце**" 16+ (камедыя па матывах сучаснай драматургіі)

28 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:

**74-63-86** – намеснік дырэктара,

**74-63-88** – галоўны адміністратар,

**74-63-85** – каса.

E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

"**Снежная каралева**" (чароўная казка) Г. Х. Андэрсэн (рус.)

25 лютага - у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**

Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**. УНП 600136804

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 17 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -5 / -1 | | -2 / 0 | | -1 / -3 | | -7 / -6 | |
| | 745 | ↑ 5 | 743 | → 4 | 738 | → 3 | 747 | ↓ 3 |
| Вільня | -6 / -1 | | -2 / 0 | | -3 / -4 | | -9 / -6 | |
| | 751 | ↑ 4 | 748 | → 4 | 754 | ↓ 5 | 755 | ↘ 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 8.27
Захад 18.25
Даўжыня дня 9.58

Усход 9.19
Захад 20.11
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -20,6 °C у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +7,2 °C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,8 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **Усё, што трэба ведаць маладым бацькам пра вакцыну для дзетак, чытайце ў наступным нумары.**



## Конкурс для закаханых: дашлі фота і атрымай падаруначак




livemaster.ru

**Умовы ўдзелу самыя простыя.**

У падарунак мы прапануем керамічную джэзву з двума кубачкамі. З гэтым падарункам кожная раніца для вас і вашага каханага будзе пачынацца кавай, якая зарадзіць энергіяй на ўвесь дзень.

Каб атрымаць гэты выдатны набор, трэба да 18 лютага даслаць фотаздымак, у якім паказана, як вы пачынаеце сваю раніцу. 23 лютага мы размесцім галасаванне, якое будзе дзейнічаць да 5 сакавіка.

5 сакавіка мы абвесцім пераможцу. Запросім яго ці яе атрымаць падарунак, каб 8 сакавіка вы маглі атрымаць асалоду ад ранішняй кавы з новага набору.

Фотаздымкі дасылайце на адрас regionnews@rh.by. У тэме ліста абавязкова напішыце "Конкурс да 8 сакавіка".

Рэдакцыя пакідае за сабой права не прымаць да ўдзелу здымкі, у якіх не вытрыманыя правілы ўдзелу ці па іншых прычынах.

**Аддзел інфармацыі.**

## Падпішыся на другі квартал на "Рэгіянальную газету" – надзейны кампас у моры інфармацыі



**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная). Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".
✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## З чым вы любіце бліны?



**Валянціна Бабарыка, сакратар:**

– Люблю бліны з мёдам. Яшчэ калі пяку, дадаю ў цеста цёрты сыр або смажаную цыбулю. Смачна атрымліваецца. Унучка Злата любіць мае бліны.



**Ірына Івашанка, работнік культуры:**

– Бліны ядзім з усім. У мяне пяцёра дзяцей. І кожная нядзеля ў нашай сям'і – традыцыйны блінны дзень. Любім з варэннем, з маслам, са скваркамі. А я найбольш люблю з чырвонай рыбай.



**Ангеліна Ганчарова, навучэнка:**

– Люблю бліны з тварагом. Ужо добра гатую сама, але і маміны бліны ем з задавальненнем.



**Андрэй Шамараў, кіроўца:**

– Любім бліны з маслам, з кілбасой, са скваркамі.



**Ірына Пажадаева, супрацоўніца завода "Зеніт":**

– У суботу ў Вілейцы святкавалі Масленіцу. І мы якраз на снеданне пяклі бліны. Любім з маслам і смятанай.



**Таццяна Сабалеўская, навучэнка:**

– Асабліва люблю бліны з вішнёвым варэннем. Часам пяку іх сама. Мама навучыла.



**Вячаслаў Альшэўскі, работнік культуры:**

– У масленічны тыдзень з мясам бліноў не ем. Люблю са смятанай і маслам.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№7 (1190) 16.02.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 177. Падпісана ў друк у 9.00 15.02.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.